Novy dušpastyr vilenskich biełarusaŭ-katalikoŭ

Star. 3

РУНЬ

Беларуская газэта ў Вільні

Viktoryja MURAŠKIENĖ: Apošniaja noč – noč nas dvaich

Star. 13

ISNN 1392-7671 № 73-74 Травень – чэрвень 2016 г.

# Сваяку ад спакрэвічаў

**Дзевяноста гадоў таму ў віленскім касьцёле Сьвятога Мікалая беларуская грамада назаўжды разьвіталася з рыма-каталіцкім ксяндзом Канстанцінам Стэповічам, больш вядомым як Казімір Сваяк (1890-1926). Зрэшты, і ў наш час віленчукі на яго не забываюцца: сёлета напрыканцы траўня ў Вільні сьцяну будынка на рагу Шкляной (Stiklių g.) і Вялікай (Didžioji g.) вуліцаў аздобіла мэмарыяльная шыльда ў гонар сьвятара й літаратара Казіміра Сваяка.**



Памятная табліца, прысьвечаная ўраджэнцу Астравеччыны, грамадзка-нацыянальнаму дзеячу міжваеннага дваццацігодзьдзя Канстанціну Стэповічу, зьмясьцілася побач зь першым беларускім помнікам найноўшага пэрыяду ў літоўскай сталіцы – мэмарыяльнай шыльдай у гонар Францішка Скарыны. Помнік Сваяку ў Вільні паўстаў намаганьнямі сяброў Таварыства беларускай культуры ў Літве. Гэткім чынам рэалізавалася ініцыятыва земляка Казіміра Сваяка – былога мытніка, а цяпер вязьня Алеся Юркойця з Варнянаў, што ў Астравецкім раёне.

— Калісьці Алесь Юркойць меў задуму ўвекавечыць памяць паэта й сьвятара Канстанціна Стэповіча ня толькі на ягонай радзіме, Астравеччыне, але й шырэй, – паведамляе старшыня ТБК, доктар філялягічных навук Аляксандар Адамковіч. – Пачаў зьбірацца матар'ял, і стала вядома, што святар ня толькі пахаваны ў Вільні на могілках Росы, але й жыў і вучыўся ў гэтым горадзе. Гэткім чынам узьнікла ідэя стварэньня дошкі. І Юркойць зьвярнуўся з гэтай задумай да віленскай беларускай грамады. Сама ідэя даволі старая: ад задумы да ажыцьцяўленьня прайшло гадоў пяць-шэсьць.

Новая прыкмета беларускай прысутнасьці ў літоўскай сталіцы, каменная дошка ў форме крыжа з барэльефам аблічча Канстанціна Стэповіча ў цэнтры на дзьвюх мовах, па-літоўску й па-беларуску, паведамляе, што "тут у Вільні ў 1906-1915 гг. жыў і вучыўся беларускі сьвятар і паэт Казімір Сваяк". Месца для помніка абранае адмыслова: мэмарыяльная табліца ў гонар каталіцкага сьвятара Казіміра Сваяка зьмешчаная на сьцяне будынку, што стаіць на месцы колішняй праваслаўнай Уваскрасенскай царквы.

— Напачатку плянавалася дошку ўсталяваць на будынку былой Віленскай каталіцкай духоўнай сэмінарыі, дзе вучыўся будучы сьвятар Канстанцін Стэповіч, – прызнаецца Аляксандар Адамковіч. – Пасьля доўгіх намаганьняў быў атрыманы адмоўны адказ, з аргумэнтацыяй якога я цалкам пагаджаюся: у гэтай сэмінарыі вучылася шмат іншых выдатных сьвятароў і выкладаў шэраг знакамітых прафэсараў, таму нельга вылучаць аднаго з шэрагу іншых, а трэба трымацца нэўтральнай пазыцыі – не дазваляць нікому. Такім чынам, мы працягнулі пошук іншых месцаў, зьвязаных з жыцьцём ці дзейнасьцю Сваяка. Гэтак і вырашылі спыніцца на будынку колішняй царквы, і гэта яшчэ больш сымбалічна, што менавіта на яе сьценах мы павесілі дошку сьвятару.

Нягледзячы на тое, што новая беларуская мэмарыяльная табліца працы скульптара Ігара Засімовіча замацавалася на будынку пры вул.Вялікай, 17 напрыканцы траўня, ейнае ўрачыстае адкрыцьцё – яшчэ наперадзе.

— Усталяваньне шыльды прымеркаванае да дзевяностай гадавіны з дня сьмерці Казіміра Сваяка, дакладней можна сказаць, дзевяностай гадавіны з дня нараджэньня для неба паэта і сьвятара, – тлумачыць Аляксандар Адамковіч. – Само-ж адкрыцьцё шыльды перанесенае на восень. Зрэшты, на нашую думку, самае галоўнае тут тое, што зробленая сама праца, і шыльда ўсталяваная. Дарэчы, самы галоўны ўнёсак тут – зразумела, мэцэната. Таму асноўная й галоўная роля ва ўсталяваньні шыльды належыць Мікіту Забугу, за што яму ад Таварыства выказваецца падзяка. Безь яго гэтай шыльды не было-б. Ну, а само ТБК не зьбіраецца спыняцца на дасягнутым і ўжо мае пляны на новыя шыльды.

# Алег АБЛАЖЭЙ (1954 — 2016)

**У літоўскай сталіцы пасьля цяжкой і, да жалю, невылечнай хваробы спынілася сэрца беларускага мастака, перакладчыка й публіцыста Алега Аблажэя.**

Незадоўга да таго, як выправіцца ў апошнюю дарогу за небакрай, Алег Аблажэй адзначыў свой шэсьцьдзесят другі дзень народзінаў. Ён зьявіўся на сьвет у вёсцы Лезьнявічы, што на Гарадзеншчыне. Пасьля заканчэньня Віцебскага пэдагагічнага ўнівэрсытэту лёс неўзабаве прывёў мастака ў Вільню. У літоўскай сталіцы Алегу Аблажэю собіла ня толькі стаць вядомым мастаком - графікам і жывапісцам. Не чужы быў яму й талент літаратара-публіцыста, а дзякуючы ягонай перакладчыцкай працы па-беларуску загаварылі героі твораў літоўскіх пісьменьнікаў. Летась-жа творчую спадчыну Алега Аблажэя дапоўніла ілюстраваная самім аўтарам кніга-казка “Красамоўнае сэрца”. Ягоныя ілюстрацыі аздобілі багата літоўскіх і беларускіх кнігаў, а таксама старонкі беларускай газэты ў Вільні “Рунь”.

— Прафэсыйна ён мне запомніўся як мастак. Гэта самае галоўнае ў ягоным жыцьці было, - са скрухаю паведаміў колішні рэдактар газэты “Рунь” Алег Мінкін. - Тыя карціны, якія ён намаляваў, былі выяўленьнем ягонай асобы, ягонай душы. А ўсё астатняе можна лічыць ня тое што другасным, але вельмі неістотным. Ён мне запомніўся, яшчэ калі я быў рэдактарам газэты і друкаваў ягоныя артыкулы пра мастацтва. *Яшчэ ён мне запомніўся як няспраўджаны мастацтвазнаўца.* Ніхто ня ведае, а я як сябра ведаю: ён быў абазнаны ў сусьветным мастацтве. Ягоная бібліятэка проста велізарная. Там ён увесь час чытаў пра мастацтва, ведаў розныя накірункі ў мастацтве, і зрэдку, нібы жартуючы, часам пісаў мастацтвазнаўчыя артыкулы.


*Алег Аблажэй і Крысьціна Балаховіч. 1986 г. Фота з асабістага архіву В.Стэха*

Доўгатэрміновае сяброўства Алега Аблажэя з Алегам Мінкіным, Сяргеем Дубаўцом, Тацянай Сапач і іншымі культурнымі й грамадзка-палітычнымі дзеячамі пачалося зімою 1991 году, пад скрыгат танкавых тракаў па віленскім бруку. Зрэшты, пра беларускую паэтку Тацяну Сапач Алегу Аблажэю собіла даведацца значна раней.

...У розных пакаленьняў - розныя вэктары. Гэта як у цягніку едуць у адным вагоне, у адным купэ людзі, але адзін ведае, што яму ўжо хутка трэба сыходзіць, а другі толькі сеў, думае, як яму далей уладкавацца ў гэтым вагоне, як ехаць, і, нягледзячы на тое, што ім добра разам, што яны размаўляюць, усё роўна іхнія жыцьцёвыя вэктары накіраваныя ў розныя бакі. Так, згадваеш з сумам: бывае, прыходзіш да сябра, сядзіш, гаворыш, і потым успамінаеш, што цябе чакаюць нейкія справы, табе пра іх трэба думаць, у рэшце рэшт, думаць, як зарабіць на кавалак хлеба, думаць, як паехаць туды альбо сюды, і ты разьвітваешся, і абяцаеш, што вось неўзабаве сустрэнешся, і ты верыш у гэта, што хутка сустрэнешся, а потым жыцьцё цябе закручвае, і высьвятляецца, што ты ня быў у сябра і тыдзень, і другі, і месяц, і болей. І гэта непазьбежна. І гэтую чашу непазьбежна вып’ем мы ўсе...

*Алег АБЛАЖЭЙ*

— Я яшчэ ў вёсцы ў бацькоў зайсёды стараўся раней загнаць кароў, бо пачыналася “Альбаросіка” (*Так называлася культуралягічная праграма на Беларускім радыё, заснаваная Тацянай Сапач. - Рэд.*), - згадвае ў апошнім інтэрвію тэлеперадачы “Віленскі сшытак” Алег Аблажэй. - Яна была позна вечарам, я чакаў гэтых передачаў, і мне ў галаву не магло прыйсьці, што калі-небудзь пазнаёмлюся з гэтым голасам, потым пасябруем, і потым, на жаль, я яе перажыву. Жыцьцё такія сцэнары піша, якія ніхто ня можа прыдумаць. Пазнаёміліся мы якраз у цяжкія часы 1991 году, яны акурат зь Сяргеем Дубаўцом прыехалі. Пазнаёміліся ў літаральным сэнсе на барыкадах. Стаялі са сьцягамі разам.

— Я ўпершыню зь ім пазнаёміўся пад выбухі 1991 году. Тады я прыехаў у Вільню, прывёз рэчы (была ідэя адрадзіць газэту “Наша Ніва”), а тут выбухі пачаліся... - згадаў Алег Мінкін.

Крыху раней за знаёмства зь “беларускім дэсантам” будучых “нашаніўцаў” Алег Аблажэй спрычыніўся да стварэньня першай пасьляваеннай беларускай супольнасьці ў Вільні. Яе склалі падпісчыкі газэты “ЛіМ”, што пражывалі ў Літве. Іхныя адрасы ініцыятар аднаўленьня беларускага грамадзкага жыцьця ў Літве Валянцін Стэх здабыў у Менску на паштамце. Пасьля таго, як ён разаслаў па тых адрасах паштоўкі, неўзабаве пачалі прыходзіць адказы. Першымі адгукнуліся Юры Зімніцкі, Вера Шостак, Янка Багдановіч, Алег Аблажэй ды Крысьціна Балаховіч.

— Да грамадзкай дзейнасьці ён ставіўся абыякава, - заявіў Алег Мінкін. - Не, ён прысутнічаў пры нас, беларусах, ён з думамі пра Беларусь увесь час жыў, але сказаць, што ён быў вялікі грамадзкі дзеяч - я не сказаў-бы гэтак. Ён быў мастак, які вылучаў час, каб сустракацца з намі, займацца грамадзкай дзейнасьцю. Беларуская ідэя яму была родная. Увогуле ён быў чалавек разнастайны, ён быў яшчэ й паэтам, і празаікам, і казкі пісаў для дзяцей, і малюнкі рабіў. Шкада, што такія людзі зьнікаюць, і потым даводзіцца да гэтага даходзіць некаму іншаму з новых пакаленьняў.

## Ня стала Ніны Брылеўскай

*Алесь АДАМКОВІЧ, Westki.info/tbk*

На дзевяноста сёмым годзе жыцьця, 28 траўня 2016 г., памерла Ніна Брылеўская, актыўны сябра Таварыства беларускай культуры ў Літве. Былая настаўніца школы, вялікая беларуская патрыётка й крышталёвай шчырасьці чалавек, яна праз усё жыцьцё пранесла любоў да беларускасьці, ахвяруючы на гэта асабістае жыцьцё. Яна - родная сястра вядомага грамадзкага дзеяча на Бацькаўшчыне, а пазьней у ЗША Уладзіміра Брылеўскага.


*Фота Westki.info*

**ТБК выказвае шчырае спачуваньне родным і блізкім Ніны Брылеўскай.**

Рэдакцыя газэты “Рунь” ад шчырага сэрца выказвае спачуваньне сям’і, родным і блізкім Алега Аблажэя й Ніны Брылеўскай.

# Novy duspastyr vilenskich biełarusaŭ-katalikoŭ

**Voś užo dzieviatnaccać hadoŭ sprabuje kvitnieć biełaruščynaj ryma-katalicki kaścioł Śv. Bartałamieja, što na Zareččy. Pavodle mastactvaznaŭcy Siarhieja Chareŭskaha, mienavita tut siemdziesiat hadoŭ tamu pierad vysyłkaj u Rasieju, adkul, z Aziarłahu, užo nie viarnuŭsia, adsłužyŭ apošniuju słužbu na biełaruskaj movie ksiondz Adam Stankievič.**



Sam kaścioł Śviatoha apostała Bartałamieja byŭ pabudavany ŭ 1644 h. jak chram klaštara biełych aŭhuścincaŭ. Zrujnavany paśla paŭstańnia 1794 h. i adnoŭleny ŭ 1824 h., sučasny vyhlad kaścioł atrymaŭ tolki ŭ 1882 h., kali na srodki vilenskaha cechu hančaroŭ była pabudavanaja zvanica. Tady-ž u chramie adnavilisia rehularnyja imšy, spynienyja savieckimi ŭładami amal praz 70 hod, ŭ 1949 h. Amal na paŭstahodździa kaścioł staŭ majsterniaj dla vilenskich dziejačoŭ mastactva. Mienavita tut skulptar Stanisłavas Kuzma rychtavaŭ fihury śviatych Kazimira, Stanisłava j Aleny, jakija ŭ 1996 h. zaniali miesca zrynutych za Savietami statujaŭ na frantonie vilenskaj Archikatedry. U hety-ž čas ažyćciaŭlalisia zachady pa pieradačy kaścioła viernikam-biełarusam. U panadvorku chrama ludzi malilisia za chutčejšaje vyrašeńnie hetaha pytańnia. Siarhiej Chareŭski ŭ radyjopieradačy Siarhieja Dubaŭca "Vostraja brama" zhadvaje: "Dobra pamiataju, niejak uletku, jašče jak nia byŭ toj kaścioł vyzvaleny ad skulpturnych majsterniaŭ, ja naŭzdahad zavitaŭ u jahony dvoryk razam z Adamam Hlobusam. Nas sustreli huki biełaruskaje malitvy... Dvor byŭ poŭny ludziej. A zusim pobač, poruč z nami, stajali dźvie čyściutka ŭbranyja dziaŭčynki-murynki ź vialikimi biełymi bantami. I navat jany staranna vyvodzili: "Maci łaskavaja, malisia za nas..."". Pavodle ŭspaminaŭ litoŭskaha kulturnaha dziejača biełaruskaha pachodžańnia Lavona Muraški, čynny ŭdziel u pieradačy kaścioła Śv. Bartałamieja biełarusam brała j Zhurtavańnie biełaruskich hramadzkich arhanizacyjaŭ u Litvie, asabistyja namahańni prykładu i Ściapan Kłaŭdzijevič Duž-Dušeŭski, inicyjatar stvareńnia kaardynacyjnaha orhanu biełaruskich supołak. Aficyjna kaścioł pieradali vilenskaj biełaruskaj hramadzie ŭ 1997 h. Słužeńnie ŭ śviatyni pačaŭ ksiondz Jan Šutkievič, jaki skłaŭ svaje abaviazki ŭ 2014 h. Pavodle śviedčańnia parafijanaŭ, za hetyja hady ŭ kaściole pačała panavać polskaja mova. I voś sioleta ŭ sakaviku vilenski kaścioł Śviatoha Bartałamieja iznoŭ byŭ uračysta pieradadzieny biełaruskaj hramadzie. Padčas uračystaj biełaruskamoŭnaj imšy dapamožny biskup Vilenskaj archidyjacezii Arunas Paniškajcis zaznačyŭ, što pry najaŭnaści ŭ Vilni kaściołaŭ, dzie nabaženstvy ažyćciaŭlajucca tolki na adnoj movie, całkam lahična, što biełarusy ź Vilni i vakolicaŭ litoŭskaj stalicy taksama zajmiejuć svoj chram. Tamu ciapier nabaženstvy tut buduć adbyvacca tolki pa-biełarusku. Słužeńnie ŭ kaściole Śv. Bartałamieja raspačaŭ ajciec Aryjuš Małyska OFM Cap. Jak paviedamiła Biełaruskaja redakcyja Vatykanskaha radyjo, ajciec Aryjuš Małyska – "kapucyn, jakomu davieranaja adkaznaja misija pa hurtavańni biełarusaŭ-katolikaŭ i nia tolki vakoł sviatyni. Nahadajem, 19 lutaha 2016 h. była padpisanaja damova pamiž ajcom Aleham Šendam, kustašam kapucynskaj supolnaści ŭ Biełarusi, i arcybiskupam vilenskim Gintarasam Grušasam, zhodna z jakoj ad 13 sakavika 2016 h. kapucyny Biełaruskaj Kustodyi raspačynajuć dušpastyrskuju pasłuhu ŭ parafii Śv. Bartałamieja ŭ Vilni". Kab bližej paznajomicca z novym ksiandzom, Vilenski biełaruski klub "Siabryna", Tavarystva biełaruskaj kultury ŭ Litvie i asacyjacyja "Kryvija" arhanizavali j praviali sustreču śviatara j paspalitych biełarusaŭ-vilenčukoŭ pa-za kaściolnymi ścienami – u Domie nacyjanalnych abjadnańniaŭ.

— Maje karani polskija ŭ takim sensie, što ja polskaj nacyjanalnaści, naradziŭsia ŭ Polšcy, – pačaŭ raspoviad pra siabie a. Aryjuš Małyska, – ale ja vychoŭvaŭsia ŭ takim asiarodździ, dzie ad pačatku mieŭ sustreču z uschodniaj kulturaj, tamu što ŭ viosaccy, dzie ja naradziŭsia, na poŭnačy Polšcy, było šmat łemkaŭ, jakich pierasialili z poŭdnia Polšcy paśla tak zvanaj akcyi "Visła".

Amal siemdziesiat hadoŭ tamu z Łemkaŭščyny na miažy Polšcy, Ukrainy j Slavakii ŭłady hvałtoŭna departavali amal sto piaćdziasiat tysiačaŭ ukraincaŭ i łemkaŭ pieravažna hreka-katalickaha vieravyznańnia. Hetak zakončyłasia masavaje pierasialeńnie z paŭdniovaha ŭschodu na poŭnač i paŭnočny zachad Polšcy. Pavodle biełaruskaj piśmieńnicy Natałki Babinaj, pierasialeńnie začapiła j palešukoŭ ź Bieraściejščyny. Hetak babula litaratarki trapiła ažno pad Olštyn. Farmalnaju padstavaju dla departacyi ludziej u 1946 h. stała nieabchodnaść likvidacyi ŭkrainskaha padpolla j pakarańnia žaŭnieraŭ Ukrainskaj paŭstanckaj armii paśla zabojstva hienierała Karala Śviarčeŭskaha, jaki patrapiŭ u zasadu UPA. Šyrokamaštabnuju mihracyju narodaŭ ažyćciaŭlała aperatyŭnaja hrupa "Visła", u skład jakoj uvajšli amal vasiamnaccać tysiačaŭ polskich žaŭnieraŭ. Pavodle planu arhanizataraŭ departacyi, pierasielenyja narody musili całkam asymilavacca. Na sionniašni dzień u śviecie naličvajecca ŭsiaho kala šaści tysiačaŭ łemkaŭ.

— Ludzi, jakija pasialilisia tam, na poŭnačy Polšcy, usio-ž taki šukali supolnaj movy, i kulturny dyjaloh pastajanna adbyvaŭsia, – zaznačyŭ a. Aryjuš. – I ja ŭ hetym udzielničaŭ vielmi, tak skažam, mocna, tamu što ŭžo ŭ treciaj klasie pačaŭ chadzić taksama na lekcyi ŭkrainskaj movy. Biełaruskaja mova dla mianie była vialikim adkryćciom, tamu što mianie zaprasili braty ŭ Biełaruś u 2006 hodzie, ja tady byŭ u Italii, raniej užo chacieŭ pryjechać u Biełaruś, tamu što maje adnakursniki byli ź Biełarusi, i kali hetaje zaprašeńnie ŭžo tak surjozna prahučała, to ja zapytaŭsia ab dazvole i hety dazvoł atrymaŭ.

Apynuŭšysia ŭ Dokšycach, što ŭ Viciebskaj vobłaści, ajciec Aryjuš Małyska ŭziaŭsia za vyvučeńnie

*Praciah na star. 16*

# Z Boham pa-biełarusku

**Mienavita hetak nazyvajecca novaja kniha doktara filalahičnych navuk Alaksandra Adamkoviča. Tvor staŭ druhim u seryi "Biełarusy ŭ Litvie: učora i siońnia". Prezentacyja śviežaha vydańnia adbyłasia ŭ biblijatecy Akademii navuk Litvy imia Ŭrubleŭskich.**




Pieršaja kniha z seryi "Biełarusy ŭ Litvie: učora i siońnia", što pabačyła śviet bolš za piać hadoŭ tamu, raspaviadała pra žyćcio biełaruskaj Vilni na praciahu 20 stahodździa. Druhaja-ž kniha aśviatlaje prablemy j roznyja aspekty biełaruskaha relihijnaha žyćcia ŭ Vilni j vakolicach litoŭskaj stalicy mižvajennaha dvaccacihodździa j na sučasnym etapie.

— Dvaccatyja-tryccatyja hady, možna tak skazać, – heta bolš ramantyčny čas, čas nadziejaŭ, spadzivańniaŭ, kali ludzi išli malicca ź vieraj, što Biełaruś adrodzicca, paŭstanie niezaležnaja dziaržava, i hetaja viera, mahčyma, davała lohkaść da žyćcia, lohkaść da dziejańniaŭ, – paviedamiŭ aŭtar knihi Aleś Adamkovič. – U naš čas – inšyja ŭmovy, a samaje hałoŭnaje, zusim inšy śvietapohlad. I tamu navat zapatrabavańnie biełaruskaha relihijnaha žyćcia staić užo daloka nie na pieršym miescy.

— Ja liču, što raniej ludzi byli bolš ščyryja, bolš adkrytyja dla kaścioła i dla Boha. Siońnia jany ŭsio-ž taki bolš prahmatyčnyja, bolš hultajavatyja, bolš zaniatyja niejkim drobnymi spravami, – paskardziłasia hramadzkaja dziajačka Ludvika Kardzis. – Ja zhadvaju, što ŭ maim dziacinstvie ŭ niadzielu nie pajści ŭ kaścioł było niemahčyma. Siońnia kožny z nas moža znajści sabie biežlič usiakich adhavorak, čamu jon nie pajšoŭ u niadzielu ŭ kaścioł, heta nie źjaŭlajecca abaviazkovym dla kožnaha čałavieka.

Intervju ź Ludvikaj Kardzis, jak i ź inšymi asobami, što brali aktyŭny ŭdzieł u relihijnym žyćci biełarusaŭ u Litoŭskaj Respublicy na miažy 20-21st.st., skłała niemałavažnuju častku vydańnia.

— Aŭtar Aleś Adamkovič uźniaŭ hetkija prablemy, pra jakija nam jašče ŭ savieckі čas było niemahčyma navat pačuć, nia toje što pračytać, – padkreśliŭ parach hreka-katalickaj carkvy Śv. Trojcy ŭ Vilni Paŭło Jachimiec. – Ja chaču ščyra padziakavać za toje, što tut zhadany śviatar Jan Daŭkšys, ź jakim mnie sobiła pracavać na praciahu čatyrnaccaci hadoŭ. Jon byŭ čałaviekam, pra jakoha možna skazać vielmi šmat, śviatarom, jakim Papa Francišak choča bačyć kožnaha z nas. Jan Daŭkšys uvasablaŭ u žyćcio toje, da čaho zaklikaje Papa.

— Zdajecca, na vokładcy – tolki adzin aŭtar Aleś Adamkovič, – zaŭvažyła redaktarka knihi Lileja Płyhaŭka. – Adnak za hetaj knihaj staić vialiki kalektyŭ, heta j sponsary, heta j tyja ludzi, jakija zhadzilisia dać intervju i pradstavili svaje fotazdymki, heta vialikaja redaktarskaja i karektarskaja praca, heta tyja ludzi, jakija finansava paspryjali vychadu knihi, i, zrazumieła, supracoŭniki dziaržaŭnaha archivu, da jakich Aleś doŭhi čas źviartaŭsia za dapamohaj. Tam jon zmoh adšukać tyja dakumanty, jakija pabačyli śviet upieršyniu. Takim čynam, siońniašniaja kniha – heta j adlustravańnie toj epochi, heta j suchija dakumanty, heta j pierapiska, heta j danosy, heta ŭsio, što ŭvachodzić u paniatak "vir žyćcia".

Pavodle aŭtara knihi Alesia Adamkoviča, u padrychtoŭku knihi da vychadu ŭ śviet sapraŭdy było ŭkładziena šmat pracy, asabliva ŭ redahavańnie j apracoŭku nažbiranaha matarjału.

— Vielmi pryjemna, što ŭ Litvie adradžajecca biełaruskaja kultura, imšy na biełaruskaj movie prachodziać u roznych chramach, – paviedamiła pieršaja sakratarka ambasady Biełarusi ŭ Litvie Maryja Ahafonava. – Ja liču, što hetaja praca moža stać sapraŭdnym padmurkam dla maładych navukoŭcaŭ, dla studentaŭ, vučniaŭ himnazii imia Franciška Skaryny, jakija daśledujuć kulturu j spadčynu svajoj rodnaj ziamli.

— Ja liču, što źjaŭleńnie hetaj knihi – heta dobry znak, – upeŭnienaja Ludvika Kardzis. – Čym bolš pra biełaruskuju historyju – tym lepš, pavinna być roznaja litaratura, roznyja pohlady, heta, možna skazać, dzirvannaja działka biełaruskaj historyi Vilni, mała daśledavanaja na siońniašni dzień, i mała vyvučanyja vilenskija archivy, jakija vielmi bahatyja na biełaruskija matarjały.

Šmat uvahi ŭ knizie nadajecca j historyi stanaŭleńnia pieradadzienaha nadoječy biełaruskaj hramadzie kaścioła Śviatoha Bartałamieja ŭ Vilenskim Zarečču.

— Kaliści nam chacielasia, kab heta była biełaruskaja placoŭka, i ja vieru, što zbyvajecca toje, pra što maryš, – vykazała ŭpeŭnienaść Ludvika Kardzis. – Samaje hałoŭnaje – treba maryć pa maksimumie, i tamu, choć nia ŭsio ŭdałosia na toj momant, u tyja hady, kali heta ŭsio rabiłasia, ale ja dumaju, što tyja našyja dziejańni, vysiłki lahli padmurkam u naradžeńnie j staŭleńnie biełaruskaha kaścioła ŭ Vilni, jakoha čakaje śvietłaja budučynia.

Novy etap u dziejnaści kaścioła Śv. Bartałamieja ŭ vilenskim Zarečču, što raspačaŭsia sioleta ŭ sakaviku z pryznačeńnia novaha administratara chrama ajca Aryjuša Małyski, iznoŭ aktualizavaŭ prablemu, vyniesienuju aŭtaram u zahałovak knihi. Na dumku Alesia Adamkoviča, vykarystoŭvańnie biełaruskaj movy ŭ sakralnaj sfery žyćcia dapamoža vyrašyć prablemu zachavańnia biełaruskaj nacyi.

— Kali biełarusy chočuć zachavacca, jany pavinny razmaŭlać z Boham pa-biełarusku, – pierakanany aŭtar knihi Aleś Adamkovič. – Mienavita relihijny čynnik fundavaŭ heta, u dvaccatyja-tryccatyja hady jakraz relihijny čynnik dapamahaŭ mnohim zachoŭvać svaju biełaruskaść i ŭśviedamlać, što jany nie palaki i nia ruskija.

— Hospad Boh razumieje movu serca, – paviedamiŭ parach hreka-katalickaj carkvy Śv. Trojcy ŭ Vilni Paŭło Jachimiec. – Mova nie pavinna być barjeram da razmovy z Boham. Zvyčajna my ŭ carkvie molimsia pa-ukrainsku, tamu što šmat ukraincaŭ prychodzić, adnak ja vielmi rady, što ŭ našym chramie adbyvajecca słužba na biełaruskaj movie. Naš chram vialiki, miesca ŭsim chopić.

— Razmaŭlajučy z Boham, hałoŭnaje – vykarystoŭvać movu serca, – upeŭnieny probašč kaścioła Śv. Bartałamieja Aryjuš Małyska. – Mova, jakaja jošć u sercy – heta rodnaja mova, na samaj spravie. I mnie zdajecca, što hałoŭnaje – prosta vykarystoŭvać movu: kali majo serca biełaruskaje, i biełaruskuju movu viedaju, to havaryć z Boham treba abaviazkova pa-biełarusku.

# Зь Вільні да зораў

**Барыс Уладзіміравіч Кіт – акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, вынаходнік вадароднага паліва для касьмічных караблёў, адзін зь першых распрацоўшчыкаў амэрыканскіх касьмічных сыстэмаў, былы дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, прафэсар Мэрылэндзкага ўнівэрсытэту сёлета ў красавіку адзначыў сто шосты дзень народзінаў.**

Атрымаўшы добрыя веды ў Віленскай беларускай гімназіі й у Віленскім унівэрсытэце, ён рэалізаваў шмат сваіх жыцьцёвых плянаў, але напоўніцу раскрыцца ягоным талентам перашкодзіла Другая сусьветная вайна. З-за яе ён быў вымушаны пакінуць родную Беларусь.

Існаваньне на чужыне было й цяжкім, і небясьпечным. Барысу Кіту трэба было уладкоўваць жыцьцё, клапаціцца пра родных, шукаць працу. І толькі пакінуўшы Эўропу, пасьля доўгіх туляньняў, ён апынуўся ў Амэрыцы, дзе пачаўся ягоны нялёгкі шлях ад цяжкой фізычнай працы да вяршыні савецкай навуковай арбіты, дзе ён рэалізаваў сябе ў касманаўтыцы. Дасягненьні ягонай працы высока ацэненыя ўсім навуковым сьветам.

На сёньня Барыс Уладзіміравіч – адзін з жывых навукоўцаў, хто сустракаўся й супрацоўнічаў з ракетчыкамі Вэрнэрам фон Браўнам, Тэадорам фон Карманам, Гэрманам Обэртам – піянэрам астранаўтыкі, бацькам атамнай бомбы Робэртам Опэнгэймерам – зоркамі тагачаснай навуковай думкі. Усе яны разам стваралі новую навуку, рабілі адкрыцьці, мянялі сьветапогляд і сам Сусьвет.

А дапамаглі Барысу Ўладзіміравічу дасягнуць такіх вышыняў веды, якія ён атрымаў у Вільні, цікаўнасьць да ўсяго новага, прагнасьць да ведаў і ўпартасьць у авалодваньні імі. Ён вучыўся ўсё жыцьцё. Цікаўнасьць яго была разнастайная. І яшчэ, як ён кажа, дапамагала чыстае сумленьне, прагнасьць да жыцьця, аптымізм ды вера ў розум.

Ён перажыў шмат момантаў, калі сьмерць стаяла побач, асабліва ў ваеннае ліхалецьце і ў выгнаньні. Але яму дапамагалі выжыць і былыя вучні, і калегі па працы. Ён назаўсёды захаваў веру ў чалавека, і за гэта Барыс Уладзіміравіч дзячыць да сёньняшняга дня маральнай і матар'яльнай дапамогай знаёмым і малазнаёмым. Асаблівы клопат яго – пра родную Бацькаўшчыну, лёс яе хвалюе яго пастаянна.



Усіх тых, хто сустракаўся зь ім, уражвае ягоны велізарны аптымізм, захапленьне жыцьцём, добразычлівасьць і сьціпласьць.

Шчодрая беларуская зямля падарыла Сусьвету шмат слаўных навукоўцаў і дзеячоў, але імя Барыса Кіта застаецца першым у гэтым шэрагу.

***Павал САЎЧАНКА***

# На літоўскай Гары крыжоў будзе й беларускі знак

**“Праваслаўныя храмы Літвы” – гэтак называлася фотавыстава, аўтарам якой зьяўляецца настаяцель храма Сьв. Пятра й Паўла з Шаўляў айцец Алег Штэльман. Прэзэнтацыя сьвятарскіх фотаздымкаў праходзіла надоечы ў залі Дому нацыянальных аб'яднаньняў у Вільні.**

— Нарадзіўся й вырас я ў Беларусі, у горадзе Вілейка, – распавёў а. Алег Штэльман. – Потым мы пераехалі ў Менск, потым я закончыў школу, пайшоў у армію і ў 1991 годзе прыехаў у Літву. Прывёў мяне Госпад у Віленскі манастыр Сьвятога Духа, я тут служыў дыяканам амаль восем год, а потым стаў сьвятаром. У Вільні я пражыў дванаццаць гадоў, па суботах-нядзелях езьдзіў у Рокішкі, Уцяну і Зарасай, пасьля быў у Клайпедзе, а зараз – у Шаўлях.

Фотаздымкі, зь якіх была ўтвораная выстава, сьвятар пачаў рабіць яшчэ ў 2003 годзе. Пазьней, у 2007 г., з дабраславеньня мітрапаліта Хрызастома сьвет пабачыў каляндар, а яшчэ праз год – і фотаальбом з выявамі праваслаўных літоўскіх храмаў. У рэшце рэшт прыйшоў час і для асобнай выставы.

У дзень прэзэнтацыі фотавыставы адбылося паседжаньне Рады Згуртаваньня беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у Літве. Апрача традыцыйных справаздачаў, агучваліся і пляны дзейнасьці на будучыню, сярод якіх трапляліся неардынарныя прапановы.

— На Гары крыжоў у Шаўлях няма беларускага крыжа, – зазначыла прэзыдэнт Згуртаваньня Ларыса Сьлесарава. – Вось мы й паставілі гэта на абмеркаваньне Рады, і цяпер будзем шукаць спонсараў: я спадзяюся на тое, што ўсё-такі будзе там наш беларускі крыж. Была крышку спрэчка: праваслаўны ці каталіцкі, а мне здаецца, трэба прасты крыж ад беларусаў, які будзе сымбалізаваць і адну, і другую веру, мы ўсе, як кажуць, Божыя людзі, і таму спадзяюся на тое, што тут ня будзе такіх надта вялікіх рознагалосьсяў.



— Ёсьць шмат цяжкасьцяў у нашых рэгіянальных суполак, – паведаміла прысутная на адкрыцьці выставы дарадца-пасланьнік амбасадара Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы Людміла Татарыновіч. – Але мы здольныя ўсе гэтыя цяжкасьці пераадолець, таму што нас аб'ядноўвае тое, што мы беларусы, і гэта адчуваецца ва ўсім. Беларускія суполкі сёньня робяць вельмі шмат для захаваньня й далейшага разьвіцьця нашай культуры.

# Бывай, альма-матэр!

**Месяц чэрвень у студэнтаў завецца гарачаю парою ня толькі з прычыны досыць высокай тэмпэратуры паветра. Канец вясны й пачатак лета – традыцыйны час падрыхтоўкі да, здаецца, бясконцых залікаў ды іспытаў. Тых-жа, хто пасьпяхова праходзіць праз усе выпрабаваньні, чакаюць запаветныя "скарынкі" і разьвітаньне з мудрай цішаю навучальнай установы. Зрэшты, так бывае не заўсёды. У 2015-2016 навучальным годзе выпускнікам Літоўскага ўнівэрсытэту эдукалёгіі, бакаляўрам беларускай філялёгіі собіла пакінуць альма-матэр яшчэ ўзімку, напярэдадні Навагодніх сьвятаў.**



Ані рэктар Літоўскага ўнівэрсытэту эдукалёгіі Альгірдас Гайжуціс, ані дэкан філялягічнага факультэту ЛУЭ Гінтаўтас Кундратас разам зь іншымі супрацоўнікамі навучальнай установы не паскупіліся на цёплыя словы ў адрас паўтара дзясятку ўчорашніх студэнтаў. Дырэктарка Цэнтру беларускай мовы, літаратуры й этнакультуры ЛУЭ Лілея Плыгаўка падкрэсьліла:

— *Менавіта матывацыя вызначае вашыя ўчынкі.* У нейкі пэўны момант вы вырашылі прыйсьці да нас ва ўнівэрсытэт, і гэта для вас – самая яскравая матывацыя. Я віншую вас шчыра, што вы дайшлі да фініша, шлях у кожнага быў розны, у кагосьці пакутлівы, у кагосьці лягчэйшы, аднак вы ўсе дайшлі да сёньняшняга ўрачыстага моманту, і зь сёньняшняга дня вы будзеце валодаць дыплёмам аб вышэйшай адукацыі адной з самых прэстыжных вышэйшых навучальных установаў краіны. Вы вяртаецеся ў Беларусь – у асноўным вы грамадзяне Беларусі, для тых, хто вернецца ў Беларусь, я хачу пажадаць, каб вы з годнасьцю несьлі свой дыплём, каб вы ганарыліся тым, што вы вучыліся за мяжой, недалёка ад Беларусі, атрымаўшы веды па роднай мове й культуры. Ня важна, дзе вы будзеце працаваць, дзе працуеце, ці будзеце выкладаць беларускую мову, ці не, але той досьвед, які вы атрымалі тут, у нашых сьценах, досьвед літоўскай мовы, літоўскай культуры, досьвед знаёмства зь іншым народам, зь іншым горадам, зь іншым ладам жыцьця, гэты досьвед вам спатрэбіцца і будзе вельмі вялікім для вас багажом. Вы нават не ўяўляеце, наколькі вы шчасьлівыя й багатыя таму, што вы вучыліся ў Вільні, у гэтым сапраўды цудоўным полікультурным горадзе, што вы хадзілі па калідорах нашага ўнівэрсытэту, што ў вас была магчымасьць сустракацца зь цікавымі людзьмі, блукаць вузкімі вулкамі Вільні й натхняцца ў тым ліку і беларускай культурай. Таму хочацца вам пажадаць, каб гэты багаж, які вы атрымалі ў Вільні, вы несьлі праз усё сваё жыцьцё, каб вы ім карысталіся, каб вы яго прымнажалі.

У ліку шчасьлівых уладальнікаў храбусткіх дыплёмаў бакаляўра апынулася й Алеся Жукоўская, што прыехала ў Вільню зь беларускага Воранава. Установу адукацыі, што дае мажлівасьць на працягу чатырох год пагрызьці граніт навукі, Алеся абірала назнарок.

— Усё вельмі было складана, таму што мая маці атрымоўвала адукацыю ў сьценах гэтага ўнівэрсытэту, і па яе шляху я вырашыла пайсьці сюды вучыцца, – паведаміла выпускніца ЛУЭ Алеся Жукоўская. – Паступіла на філялягічны факультэт, на аддзяленьне беларускай філялёгіі, вучоба вельмі спадабалася, было вельмі цікава. У мяне ёсьць параўнаньне з нашай адукацыяй беларускай, тут заняткі праводзяцца у вельмі цікавым фармаце, дзякуючы нашай вясёлай групе, у нас малады калектыў быў, было вельмі ўсё цікава й захапляльна, я-б сказала. Крыху складана было, канешне, здаваць залікі, але нічога не бывае лёгкім. Вось мы цяпер атрымалі дыплёмы, мне крыху цяжкавата стрымаць свае эмоцыі, мяне аж перапаўняе!

Рэдкі выпускнік віленскай беларускай філялёгіі стаў-бы хаваць свае перажываньні з нагоды пакіданьня альма-матэр. Ня дзіва: на зломе тысячагодзьдзяў беларускамоўная тэлеперадача "Віленскі сшытак" гэтак падкрэсьлівала важнасьць наяўнасьці ў літоўскай сталіцы беларускіх навучальных установаў: "Пасьля амаль паўвекавога перапынку аднаўленьне беларускага школьніцтва ў Вільні стала натуральным працягам адраджэньня Беларусі. З 1991 г. на факультэце славістыкі Віленскага пэдагагічнага ўнівэрсытэту была ўтвораная катэдра беларускай мовы, літаратуры й этнакультуры, на якой распачалі падрыхтоўку будучыя віленскія беларускія настаўнікі. Па ініцыятыве кіраўніцы катэдры Лілеі Плыгаўкі ў 1992 годзе пачалі дзейнічаць пачатковыя беларускія клясы ў школе №13, а таксама былі створаныя сярэднія клясы ў школе №17, што на Зьвярынцы. Неўзабаве, у 1994 годзе яны былі злучаныя ў новую, першую ў Вільні дванаццацігадовую школу №68, кіраўніцтва якой прыняла спадарыня Галіна Сівалава. Цяпер гэтая школа носіць ганаровае імя генія беларускай культуры Францішка Скарыны". Колішняя школа, а цяпер гімназія імя Францішка Скарыны стала своеасаблівай рэінкарнацыяй легендарнай Віленскай беларускай гімназіі, якая на працягу другой чвэрці XX стагодзьдзя была ўнікальнай кузьняй беларускіх кадраў. Сустрэўшы ў 1944 годзе сваю дваццаць пятую вясну, Віленская беларуская гімназія была ліквідаваная новымі савецкімі ўладамі. Сёлета колішняй катэдры, а цяпер Цэнтру беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры Літоўскага ўнівэрсытэту эдукалёгіі – таксама дваццаць пяць год. І лёс ягоны таксама незайздросны.

— *Так скляліся абставіны, што на гэтым этапе дзейнасьці ўнівэрсітэту,* я падкрэсьліваю: на гэтым этапе дзейнасьці, ваш вы-

пуск зьяўляецца апошнім выпускам існаваньня спэцыяльнасьці "Беларуская філялёгія" на філялягічным факультэце ЛУЭ, – не хавала смутку падчас уручэньня дыплёмаў дарадца амбасадара Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы ў справах культуры й дыяспары Вольга Дашыневіч.

Такім чынам, сёлета была спыненая падрыхтоўка эвэнтуальных беларускіх настаўнікаў, мова- і літаратуразнаўцаў у Літоўскім унівэрсытэце эдукалёгіі. На працягу чвэрці стагодзьдзя гэткая адукацыйная праграма была адзінай у Літве. Падобна, што спад цікавасьці абітурыентаў да беларускай філялёгіі, наяўнасьць якога канстатавалі ў Беларусі яшчэ чатыры гады таму, не абмінуў і Вільню. Зрэшты, гэта – яшчэ не канец, упэўненая дырэктарка Цэнтру беларускай мовы, літаратуры й этнакультуры ЛУЭ Лілея Плыгаўка:

— Тое, што мы завяршылі адукацыйную праграму па спэцыяльнасьці "Беларуская філялёгія", не азначае, што цэнтар не будзе працаваць. Проста праграма адпрацавала сябе. Трэба ісьці наперад, ня трэба чапляцца за тое, што ўжо аджыло. І я лічу, што праграма перастала быць актуальнай на сёньняшні дзень. Мы маем права празь нейкі пэўны час ізноў падаваць на акрэдытацыю, зноў набіраць студэнтаў. Гэта нашая воля. Такім чынам, мы проста прыпынілі адзін з напрамкаў нашай дзейнасьці. А застаецца іх яшчэ процьма. Калі падсумаваць усё, што мы тут зрабілі за дваццаць пяць гадоў, то гэта – ня толькі нашыя шматлікія выпускнікі, якія працуюць у школах і сродках масавай інфармацыі, і перакладамі займаюцца, і на іншых месцах шчыруюць. Гэта й культурны, і навуковы багаж, які мы тут стварылі.

17 лістапада 2006 г. у аўдыторыі №255 тады яшчэ Віленскага пэдагагічнага ўнівэрсытэту з нагоды пятнаццацігодзьдзя катэдры беларускай філялёгіі й міжкультурнай камунікацыі была створаная адмысловая аўдыторыя імя Францішка Скарыны. З найбольшым піетэтам да яе ставіліся, без сумневу, навучэнцы праграмы "Беларуская філялёгія". За дваццаць пяць гадоў дзейнасьці катэдра, а пазьней Цэнтар беларускай мовы, літаратуры й этнакультуры выпусьціў прыблізна паўтысячы дыплямаваных беларусістаў.

— Грамадзянаў Літвы ў нас было каля шасьцідзесяці і некалькі сотняў грамадзянаў іншых краінаў, таму што завочнае навучаньне ў нас было больш актыўнае, – згадвае Лілея Плыгаўка. – Дакладна мы сапраўды не падлічвалі, але думаю, што каля пяцісот нашых выпускнікоў ёсьць у розных краінах, прынамсі, мы падтрымліваем вельмі добрыя сувязі са шмат з кім з выпускнікоў, адсочваем іх лёс, яны да нас часта прыязджаюць у госьці, лістуемся, і гэта сапраўды вельмі прыемна, таму што ты назіраеш за іх лёсам, за прафэсыйным сталеньнем, бачыш, што ў гэтым ёсьць і твой унёсак. Сёньня мы жывем у такі час, калі ня можам канкрэтна казаць так: "Я іду на беларускую філялёгію, каб аднназначна выкладаць потым беларускую мову ў школе". І мы рыхтуем не настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, мы рыхтуем пэдагогаў, мы рыхтуем спэцыялістаў у галіне беларускай мовы і культуры, мы рыхтуем беларусістаў шырокага профілю, якія будуць кампэтэнтныя ў пытаньнях культуры, пытаньнях, зьвязаных зь Беларусьсю, і таму сёньня наш выпускнік можа знайсьці працу на любой дзялцы, дзе запатрабаваны спэцыяліст-гуманітарый. Гэта ня толькі школы, гэта і дашкольныя навучальныя ўстановы, гэта гурткі па выбары, гэта могуць быць перакваліфікацыі, трэнерская праца і гэтак далей. У любым выпадку, той досьвед і тыя веды, якія яны тут атрымалі, яны выкарыстаюць і на нейкіх іншых месцах працы. Я заўсёды разглядала вучобу ў нас як вельмі ўдалую стартавую пляцоўку, калі чалавек вызначае, хто ён ёсьць на самой справе, што яму патрэбна ў гэтым жыцьці, і потым, працуючы па спэцыяльнасьці, ён больш упэўнены ў сабе як у асобе. І, канешне, гэтыя гады вучобы вельмі шмат уплывалі і ўплываюць на станаўленьне яго асобы, я-бы так сказала, у першую чаргу. Калі гаварыць пра грамадзянаў Літоўскай Рэспублікі, якія атрымалі дыплём беларускай філялёгіі, то ў іх-жа досьвед зусім іншай мовы культуры – як гэта можа быць незапатрабаваным?

— Хацелася-б, зразумела, паспрабаваць сябе ў ролі настаўніка, у школе, – прызналася навасьпечаная выкладчыца беларускай мовы й літаратуры Алеся Жукоўская, – але я ня ведаю, як далей складзецца маё жыцьцё.

Дзесяць гадоў таму на катэдры беларускай філялёгіі й міжкультурнай камунікацыі колішняга Віленскага пэдагагічнага ўнівэрсытэту працавалі пяць дацэнтаў, два лектары й тры асістэнты. Сёлета, як вынікае зь інфармацыі на сайце навучальнай установы, Цэнтар беларускай мовы, літаратуры й этнакультуры налічвае ўсяго двух супрацоўнікаў. Імі зьяўляюцца дырэктарка Цэнтру Лілея Плыгаўка і яе намесьніца Аксана Шчыкно. Які-ж лёс напаткаў колішніх іхных таварышаў па службе?

— Нашыя супрацоўнікі ў асноўным працавалі тут як на другой працы, так што яны ня выкінутыя з жыцьця, а ўладкаваныя, застаюцца тут, а там пажывём-пабачым, – запэўніла Лілея Плыгаўка. – Цэнтар – гэта рухомая структура: сёньня адзін штатны калектыў, заўтра можа быць іншы штатны калектыў, усё залежыць ад сродкаў. Самі разумееце, калі ёсьць сродкі на рэалізацыю нейкіх праектаў, то гэты калектыў можа павялічыцца ці наадварот.

— Жыцьцё не стаіць на месцы. Парою зьяўляюцца такія абставіны, магчымасьці, якія дапамагаюць нам рэалізоўваць іншыя пляны, – выказала спадзяваньне на хуткае аднаўленьне дзейнасьці Цэнтру дарадца амбасадара Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы ў справах культуры й дыяспары Вольга Дашыневіч. – Таму я веру, што абавязкова ў недалёкай будучыні зьявіцца магчымасьць для рэалізацыі новага адукацыйнага праекту, дзякуючы якому беларуская мова будзе гучаць у аўдыторыях гэтага ўнівэрсітэту.

— Залежыць ад нас, наколькі гэта будзе жыцьцяздольная ідэя і наколькі нам будзе хацецца ёй займацца, – падсумавала Лілея Плыгаўка. – Я з катэгорыі такіх людзей, якія лічаць, што мы самі творым сваю гісторыю. І калі ёсьць вялікае жаданьне, то чалавек здолее абсалютна ўсё.



# Юбілей першадрукара

**Заля колішняга палацу князёў Хадкевічаў, а цяпер Віленскай карцiннай галерэі за старымі гаспадарамі звыкла да вялікай колькасьці высокіх гасьцей. Цяпер там пануе мудрая ціша, якую толькі зрэдку парушаюць крокі ахвочых да культуры наведнікаў. Зрэшты, так бывае не заўсёды: летась восеньню ў Віленскай карціннай галерэі разгарнулася Міжнародная навуковая канферэнцыя "Кніжная традыцыя Вялікага княства Літоўскага".**



Нагодаю для зьезду навукоўцаў, дасьледчыкаў, супрацоўнікаў дыпляматычнага корпусу ды навуковых установаў зь Літвы й Беларусі ў Вільню стаў пяцьсот дваццаць пяты юбілей беларускага першадрукара Францішка Скарыны.

Ажыцьцявіць ініцыятыву старшыні Віленскага беларускага клубу "Сябрына" Валянціна Стэха правесьці міжнародную навуковую канфэрэнцыю і такім чынам годна ўшанаваць юбілей беларускага асьветніка падтрымалі Інстытут літоўскай мовы ды Асацыяцыя беларусістаў Літвы. Да ліку арганізатараў мерапрыемства далучыліся Нацыянальная бібліятэка Беларусі й Амбасада Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы.

— Невялікай справы тут не бывае, – перакананы намесьнік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, культуроляг, кнігазнавец Алесь Суша. – Любы маленькі крок у накірунку папулярызацыі вывучэньня беларускай культуры – гэта крок да вялікай справы. У любым выпадку мы ідзём шляхам станаўленьня пэўных арыенціраў для беларускай культуры. Так ці іначай, беларусы мусяць мець пэўныя непарушныя камяні, так-бы мовіць, у падмурку сваёй нацыянальнай ідэнтычнасьці. Бясспрэчна, Скарына ёсьць адным зь іх.

— Беларуская зямля дала шмат знакамітых, значных імёнаў, якімі ганарыцца беларуская нацыя, – зазначыла дарадца амбасадара Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы па пытаньнях культуры й дыяспары Вольга Дашыневіч. – І адной з такіх асобаў зьяўляецца Францішак Скарына. Імя першадрукара мы шануем як у Беларусі, так і па-за межамі нашай краіны, і не выключэньнем зьяўляецца й Літоўская Рэспубліка. У Вільні ўсталяваная мэмарыяльная дошка, прысьвечаная Францішку Скарыну, ягонае імя носіць адна з вуліцаў літоўскай сталіцы, наша гімназія зь беларускай мовай навучаньня таксама ганарова носіць гэтае імя.

— Удзел у канфэрэнцыі бяруць як прадстаўнікі Беларусі, так і прадстаўнікі Літвы, – паведаміў Валянцін Стэх. – З усіх шаснаццаці запрошаных на гэтае мерапрыемства навукоўцаў згоду ўзяць удзел у ім далі дзевяць, але два зь іх, да жалю, у апошні момант праінфармавалі нас аб тым, што прыехаць ня змогуць. Гэта доктар філялягічных навук Адам Мальдзіс і спэцыяльны карэспандэнт газэты "Советская Белоруссия" Віктар Корбут.

Зрэшты, колькасьць дакладчыкаў кампэнсавалася якасьцю іхніх паведамленьняў. Вытокі беларускага кнігадрукаваньня, лякалізацыя друкарняў Францішка Скарыны, мова ягоных кніг і нават канфэсія першадрукара – вось толькі некалькі аб'ектаў дасьледчыцкіх зацікаўленьняў. Сьледам за Скарынавай спадчынай і даклады канфэрэнцыі "Кніжная спадчына Вялікага княства Літоўскага" прызначаныя для добрага навучаньня паспалітых людзей.

— Матар'ялы канфэрэнцыі будуць выдадзеныя асобным выданьнем, – паведаміў Валянцін Стэх. – Які будзе наклад, пакуль што не магу сказаць, гэта не ад мяне залежыць, але ўсё, што будзе залежаць ад мяне, я зраблю для таго, каб гэты наклад быў шырокім, каб розгалас пра канфэрэнцыю, пра розныя думкі, якія былі выказаныя падчас яе, дайшлі да як мага большага кола чытачоў.

Паводле гісторыка Георгія Галенчанкі, Скарыну прысьвечана больш за 6 тысячаў публікацыяў. Нягледзячы на неаспрэчную папулярнасьць асобы першадрукара ня толькі сярод паспалітых людзей, але й у навуковым сьвеце, у працэсе вывучэньня ягонага жыцьця й творчасьці дагэтуль застаецца безьліч пытаньняў без адказаў. Зрэшты, нягледзячы на таямнічасьць біяграфіі беларускага першадрукара, асоба Францішка Скарыны мае нацыятворчае значэньне. На думку культуроляга Алеся Сушы, імя асьветніка аднолькава шануюць практычна ўсе беларусы:

— Францішак Скарына ўспрымаецца рознымі групамі беларускага грамадзтва як нацыянальны герой, як асьветнік, як асоба, як мінімум, пазытыўная, – перакананы Алесь Суша. – Ці то гэта беларусы, якія жывуць у Беларусі, ці то гэта беларуская дыяспара, ці то гэта беларускамоўныя ці рускамоўныя беларусы, ці праваслаўныя ці каталікі, усе яны ўспрымаюць Скарыну як постаць знакавую для нашай культуры, і, бясспрэчна, яна нас лучыць. Гэта разумелі пачынальнікі беларускага адраджэньня ў самым пачатку дваццатага стагодзьдзя, і менавіта тады, па сутнасьці, для Беларусі гэтае імя нарадзілася.

— Яшчэ многа, так скажам, белых плямаў у біяграфіі Скарыны, ня вывучаных, ня





знойдзеных да гэтага часу тых ці іншых фактаў, яшчэ вельмі й вельмі шмат недасьледаванага, таму супакойвацца ніяк не выпадае, – упэўнены Валянцін Стэх, – нааадварот, я лічыў-бы, што гэтая канфэрэнцыя, сьведкамі якой мы зьяўляемся, распачынае шэраг іншых мерапрыемстваў, прысьвечаных постаці Скарыны. Калі сёлета мы адначаем пяцісотдвацціпяцігодзьдзе Скарыны, то ў 2017 годзе мы будзем адзначаць пяцісотгодзьдзе першай кнігі, надрукаванай ім у Празе на старабеларускай мове, пасьля ў 2022 годзе мы будзем адзначаць выхад у сьвет першай кнігі, надрукаванай ім тут, у Вільні, на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага і ўвогуле ўсёй усходняй Эўропы, таму тут цэлая серыя імпрэзаў, але нашая канфэрэнцыя зьяўляецца першай у гэтым шэрагу.

Паводле Алеся Сушы, пры падрыхтоўцы да юбілею беларускага кнігадрукаваньня ў 2017 годзе арганізатары адмысловых мерапрыемстваў павінны будуць працаваць на вялікую комплексную багатую ідэю і праграму:

— Кажучы пра юбілей, мы не сьцьвярджаем, што гэта будзе вялікае, пампезнае афіцыйнае ці неафіцыйнае мерапрыемства. Адным мерапрыемствам тут не абыдзешся, і таму неабходна скаардынаваць намаганьні ўсіх, хто мог-бы працаваць у гэткім накірунку. У гэтым сэнсе мы ўжо таксама з боку Бібліятэкі ініцыявалі такую прапанову і зараз маем прапановы па распрацоўцы такой вялікай комплекснай праграмы мерапрыемстваў да пяцісотгодзьдзя кнігадрукаваньня. Адгукнуліся бібліятэкі, музэі, унівэрсытэты ў Беларусі ды па-за межамі краіны, адгукнуліся навукоўцы, установы культуры, і пра-панавалі свае ідэі для гэтай праграмы. Сёньня гэта трыста пяцьдзясят мерапрыемстваў самага рознага кшталту: выставы, сустрэчы, мерапрыемствы, выдавецкія ініцыятывы, навуковыя дасьледаваньні, канфэрэнцыі, адным словам, усё гэта разам выбудоўваецца ў цэласную праграму падрыхтоўкі й правядзеньня сьвяточных мерапрыемстваў з абсалютна знакавай для нашай культуры нагоды, якая можа спрацаваць на нашу культуру, яна ня толькі, так-бы мовіць, адлюстроўвае асаблівасьці беларускай ідэнтычнасьці, але й падкрэсьлівае іх, і дазваляе беларусам быць беларусамі.

## Сын Вялікага княства Літоўскага

Наклады выданьняў Францішка Скарыны былі надзвычай абмежаваныя, і рэдкі шчасьлівец мог пагартаць "Псалтыр, пакрытую няжорсткай, бурай кожай". Зрэшты, гэткія мары аматараў сівых старадрукаў цяпер могуць ажыцьцявіцца значна хутчэй і прасьцей: падчас канфэрэнцыі супрацоўнікі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі прэзэнтавалі факсімільнае выданьне кніжнай спадчыны беларускага першадрукара.

— Мы вырашылі, што найлепшым падарункам і вашай краіне і найлепшым спосабам ушанаваньня памяці Францішка Скарыны будзе факсімільнае выданьне ягонай спадчыны, – паведаміў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі. – У дзьве тысячы дзясятым годзе ў нас была прынятая праграма культуры, і ў гэтай праграме быў упершыню пазначаны праект "Скарыніяна". Зараз мы па ўсім сьвеце зьбіраем асобныя выданьні, па старонках, дзе што захавалася, каб прадставіць ідэальны асобнік кожнага тома Скарыны. Адна з праблем заключалася ў тым, што ў Беларусі амаль не захавалася кніг Францішка Скарыны. Гэта адпаведны вынік таго, што Скарына ў свой час выдаў шмат кніг, і яны ў адпаведнасьці зь ягонай марай разышліся па ўсім сьвеце. Мы разьмеркавалі наш праект так, каб кожны год выдаваць пяць больш менш кніг і да сямнаццатага года выдаць поўны збор скарынаўскай спадчыны.

Калекцыі каштоўных выданьняў папоўнілі фонды Нацыянальнай бібліятэкі Літвы, Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы імя Ўрублеўскіх, бібліятэкі Віленскага ўнівэрсытэту, а таксама Віленскай гімназіі імя Францішка Скарыны. На думку ініцыятараў праекту факсімільнага выданьня кніжнай спадчыны асьветніка, установа адукацыі, якая носіць імя беларускага першадрукара, мае права валодаць усім камплектам ягоных кніг. Добрыя стасункі паміж установамі культуры пасьля прынашэньня дароў замацавала дамова пра супрацоўніцтва, якую падпісалі кіраўнікі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і бібліятэкі акадэміі навук Літвы імя Ўрублеўскіх. Зрэшты, гэта ўжо ня першая дамова пра супрацоўніцтва, якую заключыла кіраўніцтва Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы. Амаль за год да гэтых падзеяў, у сьнежні дзьве тысячы чатырнаццатага году падобны дакумант змацаваў сваім подпісам і дырэктар Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Аляксандар Груша.

— Нашыя стасункі з калегамі з Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі надзвычай інтэнсыўныя, вельмі цёплыя, сяброўскія, – запэўніў дырэктар Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы імя Ўрублеўскіх Сігітас Нарбутас. – Мы сустракаемся з калегамі з розных нагодаў, найчасьцей падчас канфэрэнцыяў, сэмінараў, некалькі разоў на год. Па-першае, ад Менска да Вільні ўсяго 190 кілямэтраў, а па-другое, беларусы й мы арыентуемся дзейнічаць у адным накірунку: мы намагаемся прапагандаваць культуру Вялікага княства Літоўскага, ягоную пісьмовую спадчыну, вялікую частку якой захоўваем мы, і ня менш каштоўную частку захоўвае й Беларусь.

Разам са сваімі даўнімі





партнёрамі Бібліятэка Акадэміі навук Літвы дамовілася падрыхтаваць публікацыю гістарычных крыніцаў шаснаццатага стагодзьдзя, дзе згадваецца беларускі першадрукар Францішак Скарына. Публікацыя мусіць пабачыць сьвет да пяцісотгодзьдзя ад пачатку друку Скарынам у Празе Бібліі на старабеларускай мове.

— Дзьве тысячы сямнаццаты год - гэта год юбілейны, - паведаміў дырэктар Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я.Коласа Аляксандар Груша, - гэта роўна пяцьсот гадоў з моманту выхаду першай кнігі Францішка Скарыны. Ён выпусьціў яе ў Празе. Але важна, што з Прагі ён пераехаў у Вільню. Чаму ня ў Полацак, горад, які ён пастаянна называў слаўным горадам, пастаянна падкрэсьліваў, што гэты горад яму блізкі? Чаму ён там не арганізаваў дзейнасьць па выданьні сваіх кнігаў? Ён ведаў і цудоўна разумеў, што ў Вільні ён знойдзе падтрымку й разуменьне, знойдзе сваіх першых пакупнікоў і чытачоў. У гэтым ёсьць нешта сымбалічнае, бо Францішка Скарыну не апраўдана называць сынам толькі беларускага народу. Гэта сын усяго Вялікага княства Літоўскага.

— Сымбалі, знакі, рэлікты мінулай культуры належаць тым, хто ацаніў іх каштоўнасьць, здолеў зрабіць іх актуальнымі і знайсьці ім месца ў сваім жыцьці, - выказаў упэўненасьць Сігітас Нарбутас. - Калі мы знойдзем для Францішка Скарыны месца ў сучаснай культуры Літвы, значыць, Скарына будзе належаць і нам. Беларусь гэта ўжо зрабіла.

Да пяцісотгодзьдзя беларускай друкаванай кнігі рыхтуюцца і грамадзкія арганізацыі. Зь ініцыятывы журналіста ды філёзафа Ўладзіміра Падгола ў Беларусі вырашана стварыць гэтак званую "Народную Біблію". Тэкст Сьвятога Пісаньня, паводле задумы, мусяць ад рукі перапісаць шматлікія асобы, а пасьля іхнія высілкі будуць зьведзеныя ў адзін асобнік. Першую кнігу "Псалтыр", да перапіскі якой пасьпелі пры жыцьці спрычыніцца славутыя паэты Генадзь Бураўкін і Рыгор Барадулін, арганізацыйны камітэт акцыі "Народная біблія" пляную абнародаваць у 2017 годзе.

Пазалетась-жа была прэзэнтаваная адноўленая Біблія Францішка Скарыны. Беларускі гісторык і калекцыянер Уладзімір Ліхадзедаў аднавіў Біблію першадрукара з дапамогай тэхналёгіяў XVI стагодзьдзя. Унікальная кніга была надрукаваная на адноўленым друкарскім варштаце на гэтак званай чарпанай ільняной паперы, што ўжывалася ў часы Скарыны. Штопраўда, Ліхадзедаў выкарыстаў не зусім аўтэнтычныя фарбы ды друкарскія формы, а таму, на думку культуразнаўцы Алеся Сушы, ідэю ўзнаўленьня Бібліі Скарыны трэба ўспрымаць не як стоадсоткавую рэканструкцыю творчасьці асьветніка, а як феномен сучаснай беларускай культуры.

## Увекавечаньне памяці першадрукара

Блізкі юбілей беларускага кнігадрукаваньня нагадаў пра неабходнасьць годнага ўшанаваньня імя ды асобы Францішка Скарыны, прычым на самым высокім узроўні. Надоечы з прапановаю кананізацыі Скарыны выступіў вучоны-беларусіст прафэсар Адам Мальдзіс. Ініцыятыўная група на чале з навукоўцам зьвярнулася з пытаньнем пра магчымасьць абвяшчэньня Францішка Скарыны беларускім сьвятым да прадстаўнікоў каталіцкай, праваслаўнай ды ўніяцкай цэркваў. Як адзначыў Апостальскі візытатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек у інтэрвію беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё, Беларуская грэка-каталіцкая царква ўжо на працягу дзесяцігодзьдзя высьпельвае ідэю кананізаваць Францішка Скарыну:

— Калі нарадзіўся гэты грамадзкі камітэт, а там ёсьць сур'ёзныя гісторыкі, у нас паўстала спадзяваньне на іх вельмі салідную працу, заснаваную на крыніцах, - паведаміў а.Сяргей Гаек. - Мы са свайго боку чакаем на іх салідную працу над біяграфіяй Скарыны і вывучэньнем некаторых момантаў, таму што гэты чалавек патрабуе таго, каб сьцьвердзілі, што ён быў глыбокаверуючым. І гэта ў дадзеным кантэксце самае важнае. Пытаньне кананізацыі - гэта зусім іншая гісторыя. І тут грамадзкі камітэт не да канца кампэтэнтны, хоць можа маліцца ў інтэнцыі кананізацыі. Але гэта справа Царквы і кананічнага працэсу, прычым вельмі складанага, і сёньня занадта рана казаць, наколькі жыцьцё й справы Скарыны дазваляюць наогул распачаць гэты кананічны працэс. Таму мы зараз знаходзімся на этапе асэнсаваньня яго біяграфіі, і тут ёсьць пэўныя пытаньні, на якія мы пакуль што ня ведаем, як адказаць.

— Сёньня цяжка дакладна сказаць, кім Скарына быў паводле веравызнаньня: праваслаўны ці католік, - сказаў перад адмысловай паніхідай, што ўваходзіла ў праграму міжнароднай канфэрэнцыі "Кніжная традыцыя ВКЛ", настаяцель Віленскай царквы Сьв. Мікалая Цудатворца а. Васіль Навінскі. - Мяркуючы па імені - католік, але бацькі былі праваслаўнымі, ёсьць меркаваньне, што стаў католікам, калі пастурпаў у Кракаўскі ўнівэрсытэт. Але для нас з вамі сёньня ня так важна, хто ён быў паводле веравызнаньня. Важна тое, што ён быў чалавекам веруючым, добра паслужыў Богу і народу сваёй асьветніцкай працай, перакладам на царкоўнаславянскую мову царкоўных кніг, выданьнем на мову, набліжаную да беларускай мовы, Бібліі, каторую назваў "Бивлия руска, выложена докторомъ Францискомъ Скориною из славнаго града Полоцька".

Ня менш актуальнай за кананізацыю Францішка Скарыны, так-бы мовіць, духоўнае ўвекавечаньне ягонага імя, зьяўляецца матар'яльная мэмарыялізацыя беларускага першадрукара. Зрэшты, на думку Алеся Сушы, ня толькі беларускага:

— Бясспрэчна тое, што Скарына зьвязвае Беларусь і Літву. Ён і беларускі, і літоўскі першадрукар. Ён зьвязаны і зь Беларусьсю,

бо нарадзіўся там, і зь Літвою, бо тут жыў, працаваў, выдаваў свае кнігі. Мэмарыялізацыя Скарыны адбывалася і ў Беларусі, і ў Літве. Мы маем шыльды, мэдалі, якія фармальна сьведчаць пра прысутнасьць гэтай асобы ў культуры як беларускай, так і літоўскай. Таму бясспрэчна тое, што мы сёньня можам выкарыстаць гэты фактар для знаходжаньня пэўных тэмаў для агульнай размовы паміж Беларусьсю і Літвою. Культура, як вядома, лучыць, а на прыкладзе такіх выбітных асобаў мы мусім працаваць разам, і гэта можа даць добры плён, – перакананы Алесь Суша.

— Беларускі пісьменьнік Алесь Карлюкевіч прыдумаў добры праект, куды запрасіў і мяне, – паведаміў сябра Саюзу журналістаў Літвы Вітаўтас Жэймантас падчас ускладаньня кветак да мэмарыяльнай табліцы Францішку Скарыну. – Ён абраў адзін верш Францішка Скарыны й прапанаваў перакласьці яго на ўсе мовы сьвету. На літоўскую мову пераклаў я. Гэтая кніга завецца "Францішак Скарына на мовах народаў сьвету". Я вельмі цешуся, што ў гэтай кнізе ёсьць больш за сто моваў, у тым ліку й літоўская. Як літовец, як вілянчук, я думаю, што Францішак Скарына заслугоўвае ў Вільні добрага помніка, прынамсі, такога самага добрага помніка, як той, што стаіць у Менску.

— Помнік Скарыну абавязкова патрэбны, – упэўненая дарадца амбасадара Беларусі ў Літве па пытаньнях культуры й дыяспары Вольга Дашыневіч. – Трэба, каб ён быў менавіта ў Вільні, бо, як кажуць шматлікія дасьледчыкі, менавіта Вільня была месцам, дзе выйшла першая кніга Скарыны на роднай мове, гэта была першая кніга на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага і першая кніга на тэрыторыі сучаснай Літвы, таму, безумоўна, гэта было-б вельмі знакава і сымбалічна, каб помнік Францішку Скарыну таксама зьявіўся і ў сталіцы Літвы.

Помнікі Францішку Скарыну ёсьць у Менску, Лідзе, Полацку, Празе ды Караляўцы (Калінінград). У Вільні-ж, апрача мэмарыяльнай дошкі на вуліцы Вялікай (Didžioji g.), да помнікаў першадрукару далучаюць і статую "Летапісец" працы літоўскага скульптара Вацлаваса Круцініса. Шматлікія біёграфы Скарыны не падаюць зьвестак пра тое, што яму калі-небудзь даводзілася сьпісваць "усё ад слова і да слова з даўнейшых граматак пра долю Магілёва", а значыць, і "Летапісец" на ролю віленскага помніка беларускаму першадрукару не надаецца.

— У 2011 годзе я запісаўся на прыём да тагачаснага амбасадара Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы спадара Ўладзіміра Дражына, – згадаў Валянцін Стэх, – і выказаў яму падчас гэтай сустрэчы некалькі прапановаў, у тым ліку прапанову зьвярнуцца да гарадзкіх уладаў з просьбай аб узьвядзеньні ў Вільні помніка Францішку Скарыну. Другая мая прапанова, зьвязаная з гэтым імем, тычылася заснаваньня ў Вільні, пажадана ў тым доме, што стаіць у панадворку дома на вуліцы Вялікай, 19, Музэю беларускага кнігадрукаваньня і пісьменства. Пасьля, калі мы зьвярнуліся да тагачаснага мэра Вільні Артураса Зуокаса наконт помніка, спадар Зуокас, фактычна адмовіўшы нам у помніку, прапанаваў менавіта той самы будынак якраз пад такі-ж музэй і ўзяць. Паколькі на сёньняшні дзень мы на самай справе маем вельмі і вельмі няшмат з таго, што нагадвала-б нам пра Францішка Скарыну ў літоўскай сталіцы, юбілейныя даты, зьвязаныя з жыцьцём і дзейнасьцю гэтага беларускага асьветніка, да якіх мы набліжаемся, я лічыў-бы выдатнай нагодай, каб, як мінімум, паставіць у Вільні прызнанаму ва ўсім сьвеце першадрукару помнік і ў такі спосаб хоць часткова сплаціць яму доўг, які цягнецца за горадам вось ужо блізу 500 гадоў.

# Калі нарадзіўся Францішак Скарына?

**Пяцісотдваццаціпяцігодзьдзе беларускага першадрукара Францішка Скарыны, да якога была прымеркаваная міжнародная канфэрэнцыя "Кніжная традыцыя Вялікага княства Літоўскага", што адбывалася ў Вільні летась напрыканцы лістапада, грунтуецца на навуковай гіпотэзе пра нараджэньне асьветніка блізу 1490 г. – менавіта ад гэтай даты прынята адлічваць жыцьцёвы шлях славутага палачаніна. Зрэшты, цалкам верагодна, што скарынаўскі пяцьсот трыццаты юбілей можна было-б сьвяткаваць і сёлета ў сакавіку.**

Дакладна невядома, калі канкрэтна ў сям'і полацкага купца Лукі Скарыны нарадзіўся хлопчык Францішак, які праз гады здабыў славу доктара, асьветніка ды першадрукара. Мяркуючы па тым, што, набыўшы першапачатковую адукацыю ў Полацку або ў Вільні, у 1504 годзе шкаляр Францішак паступае ў Кракаўскую акадэмію, куды ў той час прымалі й пятнаццацігадовых падлеткаў, дасьледчыкі біяграфіі першадрукара робяць высноўу, што нарадзіўся ён не пазьней за 1490 год.

— Застаецца пакуль што прыблізная дата, – сьцьвярджае дырэктар Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Аляксандар Груша. – Застаецца 1490 год, менавіта ў сувязі з гэтым годам адзначаўся дваццаць пяць год таму пяцісотгадовы юбілей Францішка Скарыны. Тым ня менш, маюць права на жыцьцё й іншыя меркаваньні дасьледчыкаў.

На думку некаторых навукоўцаў, дакладная дата зьяўленьня Скарыны на сьвет вядомая, і на яе ўказвае ягоны асабісты герб, на якім зьмешчаная выява сонца ды маладзіка. Гэта, лічаць пэўныя дасьледчыкі скарынаўскага жыцьця, зьяўляецца згадкай пра частковае зацьменьне сонца, што адбывалася раніцай 6 сакавіка 1486 г. Гэты дзень, як мяркуецца, свой дзень нараджэньня Францішак Скарына і зашыфраваў у знакамітай выяве.

— Існуе гіпотэза вядомага беларускага мастацтвазнаўцы і дасьледчыка мастацтва кніг Скарыны Міколы Шчакаціхіна, што Скарына мог нарадзіцца ў 1486 годзе, калі назіралася зацьменьне сонца, а мы



цудоўна ведаем гэтую эмблему, якая сустракаецца вельмі часта на тых кнігах, якія былі выдадзеныя Францішкам Скарынам, і, хутчэй за ўсё, не зьяўляецца нейкім абстрактным фактам, – паведаміў Аляксандар Груша. – Быць можа, сапраўды, гэтая эмблема мае нейкія рэальныя падставы, якія зьвязаныя зь ягоным жыцьцём, можа быць, зь яго нараджэньнем. Гэтая версія, гэтая гіпотэза па-ранейшаму жыве, аднак пакуль што новых фактаў, новых крыніц адносна даты нараджэньня нашага першадрукара ня выяўлена.

Між тым, большыня дасьледчыкаў дзейнасьці Скарыны схільная тлумачыць сэнс асабістага гербу друкара ягонай менавіта асьветніцкай дзейнасьцю. Сьвятло сонца атаясамліваецца з хрысьціянскай навукаю, якая пасьпяхова перамагае цемру невуцтва. Таму й прызначаў свае кнігі Скарына "Богу на славу, а людзям паспалітым для добрага навучаньня".

# Apošniaja noč – noč nas dvaich

**Minuła voś užo siem hadoŭ, jak u Vilni spyniłasia serca kolišniaha prezydenta Zhurtavańnia biełaruskich hramadzkich arhanizacyjaŭ Litvy, kiraŭnika choru pravasłaŭnaha saboru Śviatoha Ducha, zasłužanaha artysta Litoŭskaj Respubliki Lavona Adamaviča Muraški. Spadarožnica jahonaha žyćcia, spadarynia Viktoryja Muraškienė, vypuściła ŭ śviet knihu ŭspaminaŭ "Ja nie mahu nie kachać ciabie". Hazeta "Ruń" praciahvaje z łaskavaj zhody spadaryni Viktoryi publikavać dziońnik-apisańnie apošnich imhnieńniaŭ žyćcia Lavona Muraški.**

***Viktoryja MURAŠKIENĖ***

*Praciah. Pačatak u N72*



*Fota leonmurashko.blogspot.lt*

## 6 studzienia 2009 h.

Lavonu zachaciełasia pasłuchać apošnija naviny ŭ haścioŭni. Pajšli, ale chutka viarnulisia ŭ spalniu. Ja dapamahła jamu lehčy. Lavon krychu pamaŭčaŭ i pačaŭ raskazvać pra Siniaŭku, pra Kleck, pra dziacinstva. Raskazvaŭ pra pažar u Klecku. Pra toje, jak adzin žyd vyratavaŭ šviejnuju mašynku jahonaj maci i prynios paśla pažaru: "Ciotuchna, ja vyratavaŭ vašu šviejnuju mašynku, heta-ž vam budzie kavałačak chleba". Jahonaja maci vielmi ŭzradavałasia. Jana dobra šyła.

Lavon škadavaŭ, što prapali našyja hrošy ŭ banku "Litkaaperacyi": "Tabie-b nie było finansavaj prablemy, kali-b my ich mieli. Padumaj, mahčyma, treba niavypłačanuju pensiju, jakuju viarnuli j pieravianli ŭ Vilenski "SEB", pakłaści ŭ bank "Snoras", tam bolšyja pracenty. Našaje žyćcio nie było lohkim. Chacia j vyłučyli nam dvuchpakajovuju kvateru, pakoi byli prachadnyja, kuchnia asobna. Dla našaj siamji heta było niazručna. Usio žyćcio abodva ciažka pracavali i zmahalisia za lepšaje žyćcio. My z taboju adčuvali j pieražyli złosnuju zajzdraść, vialikija straty, pieražyvańni. Zajzdraść była paŭsiul: i ad čužych, i ad svaich".

Kazaŭ, što zastajecca šmat archivaŭ, a ź imi šmat kłopataŭ, i što ja j plamieńnik Rymantas možam ich zachavać, a inšyja buduć schilnyja ich likvidavać: "Rymantasu možna daviarać. Ja jaho lublu, i jon mianie lubić, i ciabie taksama jon lubić. Jon adčuvaje heta i z nami adkryty. Jon budzie bierahčy ŭsio, što my za hady našaha žyćcia źbierahli".

Lavon pamaŭčaŭ i praciahvaŭ:

— Našaje žyćcio było sapraŭdnaj baraćboj, i vialikaje ščaście j dabraslavieńnie Boha, što my byli ŭdvaich. Ja mieŭ ciabie, a ty mieła mianie. Tolki hetak i pieražyli ŭsie ciažkaści, kryŭdy, pieražyvańni – bolš za pałovu stahodździa. Ščaście, što ŭmieli adzin adnamu dapamahčy, spačuvali, kali heta było patrebna. Trochpakajovuju kvateru taksama sami nabyli, a maju j baćki Adama addali manastyru. Tak i pavinna było być – dom manastyrski.

Ja siadzieła la jaho to z adnaho boku, to na svajoj pałovie łožka. Kali pačynalisia mocnyja boli, a boli ŭsio ŭzmacnialisia (my dumali, što zrušylisia kamiani), prasiŭ abiazbolvajučy ŭkoł. Jon byŭ vielmi ciarplivy i spadziavaŭsia, što bol projdzie. Kali bol ściščvaŭsia, jon zasynaŭ, ale na karotki čas. Pračnuŭšysia, kazaŭ: "Chaču pacałunak, i budziem spać. Ty taksama vielmi stamiłasia, paspraboj zasnuć".

Kali Lavon zasynaŭ, ja chadziła na kuchniu vypić svaje leki. Ale praź niekalki chvilinaŭ jon znoŭ klikaŭ: "Rytula! – hetak mianie klikali ŭ chacie. – Mnie vielmi balić, padaj leki".

Dazvolu sabie dumać, što kamiani ŭ žoŭcievym puzyry zrušylisia ad małodzievaj luboŭnaj "himnastyki".

Ja vyklikała "chutkuju dapamohu", i doktar, nie zrazumieŭšy chvaroby, chacieŭ adviezci ŭ infekcyjny špital, chacia ja j vyniki tamahrafii jamu pakazała. Lavon admoviŭsia jechać, matyvujučy tym, što ŭ jaho niešta inšaje, a nie infekcyjnaja chvaroba. Čas išoŭ jamu nie na karyść.

Vyklikała "chutkuju" sa svajho špitala ŭ Antokali. Doktarka adrazu skazała, što ŭ Lavona miechaničnaja žaŭtucha, kamiani pierakryli kanały vytokaŭ žoŭci. Adrazu advieźli ŭ kliničny špital na Antokali, u 3 addziel. Terminova pačali ačyščać kroŭ. Uvieś arhanizm byŭ nasyčany žoŭciu.

Kroŭ ačyščali z 27 studzienia da 11 lutaha. Bolej nielha było čakać. Ryzykavana, ale aperacyja była nieabchodnaja. Mianie papiaredzili, i ja padpisała zhodu na jaje. Lavon zrazumieŭ sytuacyju j supakoiŭsia. Paprasiŭ, kab ja nie sychodziła sa špitalu, pakul jaho nia viernuć u pałatu. Ja j biaz prośby nie pajšła-b. Aperacyja prajšła paśpiachova. Lavon, jak tolki pračnuŭsia ad narkozu, zahavaryŭ: "Ja nie chaču ciabie pakidać. Tabie adnoj budzie vielmi ciažka". Ja supakojvała jaho i prasiła być strymanym, nie skakać, nie prasicca, maŭłaŭ, "chaču dadomu da žonki, jana mianie čakaje". Lavon paabiacaŭ być spakojnym, ale nienadoŭha. U reanimacyju mianie puskali časta, ale nakarotka. Chacia ja jamu skazała, što ŭvieś čas u vestybiuli la dźviarej pałaty siadžu j čakaju, pakul chto-niebudź z daktaroŭ nia puścić da jaho na dziesiać chvilinaŭ.

2 sakavika viarnulisia dadomu. Lavon chadziŭ pa pakojach. Sam ustavaŭ, a lehčy treba było dapamahčy – mocy niejak nie było.

## 7 sakavika 2009 h.

Zrabiła abiazbolvajučuju injekcyju, i Lavon krychu zasnuŭ. Ja vypiła svaje leki, šklanku małaka. Pajšła ŭ spalniu i cicha lahła na svajo miesca pobač ź im. Lavon nia spaŭ i skazaŭ: "Daj pacałunak, i budziem spać". Uziaŭ maju levuju ruku ŭ svaju pravuju i paŭtaryŭ: "Śpim!". Tak byvała ŭsio našaje doŭhaje žyćcio.

Ranicaj rana ja pračnułasia, spužaŭšysia strašnaha snu, až padskočyła na łožku. Lavon zreahavaŭ i zapytaŭsia, što zdaryłasia. Ja ničoha nie raskazvała, znoŭ lahła na svajo miesca, ale zasnuć nie mahła. Ranicaj pryhatavała śniadanak. Lavon źjeŭ dźvie łyžki tvarahu, vypiŭ harbaty ź lekavych ziołak i leki. Jamu chaciełasia lehčy, i, trymajučysia za mianie, Lavon pajšoŭ u spalniu. Ja dapamahła lehčy, nakryła, i jon pakrysie zasnuŭ. Lahła j ja na svajo miesca, hetak, jak spała zaŭsiody.

### 8 sakavika 2009 h.

Dzień byŭ ciažejšy. Ja zrabiła Lavonu ŭkoł i pajšła ŭ kuchniu vykinuć špryc. Čuju, kryčyć: "Tata, mama, Rytula, Zianona, Viktoryja!". Prybiehła i kažu, što tut, aproč mianie, nikoha niama. "Heta dobra, što ty jość, pryniasi harbatki j leki. Ja, vidać, zasnuŭ, i mnie pryśniłasia, što my ŭ Siniaŭcy, i ty, i Zina, i tata, i mama, i ciocia Hanna". Pakul ja z kuchni pryniesła leki, jon užo zasnuŭ, daviałosia pabudzić. Lavon usio vypiŭ, ale havaryć nie chacieŭ. Skazaŭ, što choča paspać, tolki paprasiŭ pacałavać: "Ja pasplu, a ty pasiadzi ci palažy pobač sa mnoju. Vielmi kachaju ciabie i chaču, kab ty pabyła sa mnoju, pakul ja budu spać. Dobra kachać i być kachanym, jašče pacałunak i ja budu spać".

Ja lahła pobač na svajo miesca, pacałavała jaho, my ŭzialisia za ruki i abodva lažali, jak zaŭsiody. Lavon krychu paspaŭ, ale, chutka pračnuŭšysia, skazaŭ: "Dapamažy mnie ŭstać, i pojdziem pasłuchać apošnija naviny". Z namahańniami i majoj dapamohaju jon ŭstaŭ i dajšoŭ da haścioŭni. Sieŭ na kresła, ahledzieŭ usio, što visić na ścianie, u šafie, dzie suveniry. Paśla paprasiŭ: "Dapamažy ŭstać, i pojdziem u spalniu". Idučy pa kalidory, hladzieŭ na ŭsio, što visieła na ścienach, u kalidory. My pavolna išli napierad. Spynilisia na parozie jahonaha pakoju. Tam na ścienach było šmat fotazdymkaŭ jahonych rolaŭ, sa Śviataŭ biełaruskaj pieśni, našyja viasielnyja dy jubilejnyja fotazdymki. Jon ich sam u svoj čas raźviešvaŭ. Ja tolki dapamahała jamu.

— Voś my z taboju i prajšli pa našym žyćci, – skazaŭ Lavon. – Pajšli ŭ spalniu. Usio, što my z taboju ahledzieli, heta častka majoj šmathadovaj pracy. A zaraz my prajšli pa ŭsim našym žyćci.

Z majoj dapamohaju Lavon loh na svajo miesca j pačaŭ havaryć: "Voś hetyja dva partrety pakazvajuć, što j my z taboju byli maładyja, takija, jak Rymantas na susiednim partrecie. Hetyja dźvie ikony, jakija ja paviesiŭ na ścienku, nad našymi hałovami, padaravaŭ śviatar Siniaŭskaj carkvy 2 listapada 2007 h., kali my tam byli. A hetaja nievialikaja ikona padaravanaja Uładykaju Antonijem, kali jon byŭ jepiskapam u Krasnajarskaj-Jenisiejskaj jeparchii. A ciapier daj pacałunak, i budziem spać".

Nie paśpieŭ zasnuć, jak zahavaryŭ znoŭ: "Darahaja maja, ja ŭzhadaŭ, ty pasłuchaj. Pa vielmi važnaj spravie źviarnisia ŭ ambasadu Biełarusi da Uładzimira Nieścieraviča Dražyna. Jon i jahonaja žonka Tamara Cimafiejeŭna – niezvyčajnyja ludzi, čym zmohuć, tabie dapamohuć. Jašče dapamohi možaš paprasić u Mitrapalita Chryzastoma. Carkva tabie abaviazkova dapamoža. Źviartajsia praz Archimandryta Hiermahiena. Telefony ja tabie jašče raniej davaŭ. Rymantas abaviazany kłapacicca pra maci. Jana taksama ŭ drennym stanie, chacia j lepšym, čym ja ciapier".

Byccam-by chacieŭ zasnuć, ale skazaŭ:

— Jašče tabie nahadvaju, kab nie zabyła. Nie pakidaj mianie adnaho, zasnułaha viečnym snom, u našaj spalni, u našym łožku. Heta apošniaja našaja noč. Ja chaču być z taboju. Kali cieła j budzie miortvym, to maja duša, moj duch buduć z nami ŭsiu noč. Ciapier jašče pacałujemsia j budziem spać. Paspabuj i ty zasnuć, daj mnie svaju ruku.

My ŭzialisia rukami, jak i na praciahu ŭsiaho žyćcia. Lavon kazaŭ spakojna i nastojliva. Prasiŭ zrabić tak, jak jon prosić.

— Supakojsia, darahi moj Lavonie, – kazała ja, – ja zrablu hetak, jak ty prosiš, a pakul my abodva razam. Tvaja ruka trymaje maju ruku, ja blizka kala ciabie lažu, adčuvaju tvajo ciapło j serca, mocnuju tvaju ruku.

U peŭny momant jahonaja ruka mocna ścisnuła maju ruku i adrazu-ž adpuściła. Ja zrazumieła, što heta znak, jon straciŭ śviadomaść. Ja vykanała jahonuju prośbu, lažała pobač, trymała jahonyja palcy i dumała, što, moža być, jon jašče pračniecca i niešta skaža.

U apošniuju noč – našu noč – my byli ŭdvaich, byli razam. Ja zirnuła na hadzińnik, što stajaŭ na tumbačcy la łožka z majho boku – było 0 hadzinaŭ 15 chvilinaŭ.

Niekatory čas abodva lažali. Jon spaŭ, i praź niekalki chvilinaŭ i ja zasnuła, trymajučy jahonuju ruku.

Ranicaj pryjechaŭ Rymantas z maci – jany mieli klučy ad našaj kvatery. Uvajšli ŭ spalniu, ja pračnułasia, a Lavon – užo nie.

Ja paviedamiła Ramanu Vajnickamu, Archimandrytu Hiermahienu ŭ manastyr, što Lavona nia stała.

### 10 sakavika 2009 h.

Pavodle daručeńnia Mitrapalita Chryzastoma manastyr arhanizavaŭ vielmi pryhožaje afarmleńnie ŭ siaredzinie Sabora Śviatoha Ducha, vielmi ŭračystyja malebny j provady na mohiłki Śviatoj Eŭfrasińni. Raźvitvacca prychodziła šmat ludziej: z teatraŭ, škołaŭ, enerhietyki, vierniki – i pravasłaŭnyja, i katoliki.

Pasiarod Sabora Śviatoha Ducha Lavon u biełym harnitury, halštuku, padrychtavanaj kašuli, hetak, jak jon źbiraŭsia apranacca na raźvitalny kancert ŭ Vilenskaj Ratušy, lažaŭ u atačeńni šmatlikich pryhožych viankoŭ i kvietak, jak byvała paśla jahonych kancertaŭ.


1

Smagu skabyt ramunę po lapelį,
Kartot be galo žodį mielą, tyką,
Smagu žmonėms parodyt šimtą sykių,
Kad mūsų meilei niekas prilygt negali.

Smagu nuklyst į liepų tankmę gilią
Ir žvilgsnį saulėn vogčiomis pakelus,
Klausyt kaip kalba tau nuskintos gėlės
Tu myli!.. Taip, ir jį be galo myli.

*Uryvak ź vieršaŭ Lavona Muraški (z asabistaha archivu V.Muraškienė)*

# “Камэта” у віленскай Ратушы

**Сёлета 14 траўня, калі ў Стакгольме ішла апантаная барацьба за званьне пераможцы Эўравізіі, у літоўскай сталіцы беларускі сьпявак Зьміцер Вайцюшкевіч прадставіў свой новы альбом пад назоваю “Камэта”.**



Некалі ў рэпрэзэнтацыйнай залі віленскай ратушы адбываліся паседжаньні сталічнага магістрату, пазьней дзівіў гледачоў пастаноўкамі гарадзкі тэатар. Час паказвае, што сцэна ў колішняй мэрыі надаецца і для канцэртных выступаў беларускіх выканаўцаў. Арганізаваць прэзэнтацыю новага, васямнаццатага альбома Зьмітра Вайцюшкевіча собіла рэклямна-інфармацыйнаму агенцтву “За граніцу”, што вось ужо тры гады дзейнічае ў літоўскай сталіцы. Як паведаміла кіраўніца праекту Алена Бутурля, агенцтва сьцірае межы паміж дзяржавамі й іхнымі жыхарамі, дазваляючы людзям цесна стасавацца ў справах бізнэсу, адпачынку, культуры. Адной з рэалізаваных агенцтвам ідэяў стала арганізацыя замежнага канцэрту Зьмітра Вайцюшкевіча.

— Я хацеў-бы распачаць добрую традыцыю, якая ўжо як-бы паціху існуе: прэзэнтаваць альбом у Вільні, – прызнаўся Зьміцер Вайцюшкевіч. – Па-першае, Вільня – самы блізкі горад з буйных замежных і нам не чужы, вельмі гэткі родны, беларусы першым горадам для выезду на ўікэнд выбіраюць Вільню, пасьля ўжо думаюць пра Варшаву і Маскву. Таму што зручна. А па-другое, я хацеў-бы распачаць традыцыю сталых выступаў раз на год, раз на паўгады ў Вільні. Межы, візы перашкаджаюць, але тым ня менш я буду дамаўляцца, буду грукацца ў дзьверы, мне, здаецца, блізкія й родныя.

Новы альбом Зьмітра Вайцюшкевіча “Камэта” складаюць песьні, напісаныя чэхам Ярамірам Нагавіцам у перакладзе Віталя Воранава.

— Нагавіца зараз – культурная ікона, і гэта не таму, што ён быў дысідэнтам, – перакананы Зьміцер Вайцюшкевіч. – Нагавіца – гэта такі адпаведнік Булата Акуджавы ў савецкія часы, ён зараз адказвае на пытаньні чэшскага грамадзтва ці нават грамадзтва Ўсходняй Эўропы, ён вельмі запатрабаваны ў Польшчы, у Славакіі, ва Ўкраіне, дзе трохі разумеюць па-іхняму, таму што ён па-свойму стараецца адказаць на пытаньні жыцьця й сьмерці, каханьня й нянавісьці, здрады, чалавечых праблем, якія зьвязаныя з пакіданьнем свайго роднага месца праз вайну ці праз катастрофу. Гэта ўсё вельмі актуальна. Сёньняшняя беларуская музыка, і папулярная, і незалежная, аднапланавая. А хацелася-б, каб гэтых творчых планаў было шмат у адной нейкай ідэі. Гэтым, уласна кажучы, я зараз і займаюся.

У літоўскай сталіцы Зьміцер Вайцюшкевіч выступае ўжо не ўпершыню. Пакуль што для сьпевака гэта – адзіная магчымасьць сустрэцца з аматарамі ягонай творчасьці. Ужо пяць з гакам гадоў Зьмітру Вайцюшкевічу забаронена ладзіць канцэрты ў Беларусі.

— Зьміцер Вайцюшкевіч ня мае магчымасьці выступаць у Беларусі, – паведаміла Алена Бутурля. – Усе ягоныя канцэрты забароненыя, таму бліжэйшы да Беларусі горад, дзе ён можа выступіць, куды могуць вольна выехаць беларусы – гэта Вільня.

Патлумачыць прычыны таго, што афіцыйныя беларускія ўлады не даюць дазволу на канцэрты Зьмітра Вайцюшкевіча, ня здолее, бадай што, ніхто. На думку сьпявачкі Русі, песьні Вайцюшкевіча вельмі мяккія, не палітызаваныя, але сьвядомы выбар Вайцюшкевічам беларушчыны ня толькі на сцэне, але й у жыцьці, насьцярожвае чыноўнікаў. Аматар творчасьці беларускага барда Дзяніс Кучынскі, выпускнік акадэмічнай праграмы “Культурная спадчына й турызм” Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту, выказаў меркаваньне, што забарона канцэртаў Вайцюшкевіча ў Беларусі можа быць чыёй-небудзь прыватнай ініцыятывай:

— У нас-жа такая справа, што калі ты не падабаешся канкрэтнаму чыноўніку, ты ня можаш з-за гэтага выступаць. Вайцюшкевіч у мяне асацыюецца з музычным праектам “Народны альбом”, з той эпохай, калі ты сьпяваеш ці нешта робіш па-беларуску, няважна, якой ты партыйнай прыналежнасьці, на цябе і іншых ставілі вось гэтае таўро, кляймо “бээнэфавец” – і ўсё, ты ўжо дзесьці забаронены, – лічыць Дзяніс Кучынскі.

Сам Зьміцер Вайцюшкевіч пра прычыны забароны сваіх канцэртаў у Беларусі таксама не здагадваецца:

— Мне цяжка казаць ад імя людзей, якія пішуць нейкія рэзалюцыі ці вырашаюць, што мая творчасьць ці мая асоба небясьпечная для канстытуцыйнага ладу ў Беларусі. Неяк стала вядома мне, што “чорнымі сьпісамі”, у якія трапляем мы, музыкі, займаецца спэцыяльны аддзел, які адказвае за канстытуцыйную бясьпеку, але каментаваць гэта няма часу, трэба займацца справаю, бо жыцьцё кароткае, трэба займацца творчасьцю, разьвівацца, нягледзячы на досыць складаныя абставіны.

— Гэта ўжо другі канцэрт Зьмітра Вайцюшкевіча ў Вільні, – сказала Алена Бутурля. – Першы ягоны канцэрт быў тут летась. Для гэтага выступу сьпевака мы шукалі залю, якая будзе і сымбалічнай, і з дастатковай колькасьцю месцаў, і кіраўніцтва Ратушы знайшло нам вольны дзень. Гэтым разам прыехала крыху больш за сто гледачоў, хаця летась было пяцьсот чалавек. Да жалю, гэтым разам у візавай падтрымцы адмовілі, зрэшты, як мы даведаліся, ня толькі нам, але й усім беларускім выканаўцам і гуртам, таму, арганізоўваючы гэты канцэрт, мы разьлічвалі на меншую колькасьць людзей.

— Можна крыўдзіцца ці на сябе, ці на лёс, – са скрухаю кажа Зьміцер Вайцюшкевіч, – але я прызвычаены да розных абставінаў. Гэта такія хвалі: сёньня ўнізе, заўтра трошку вышэй. Людзі, па-першае, зьбяднелі вельмі моцна зараз, выезд у тую-ж Вільню на канцэрт ужо каштуе шмат эмоцыяў і, галоўнае, грошаў, якіх не хапае катастрафічна, таму людзі вымушаныя эканоміць – за што іх папракаць? Іншая справа, што Вільня заўсёды была сталіцай актывізму, беларускай апазіцыйнасьці. Усе гэтыя людзі некуды пазьнікалі – вось гэта іншая справа. А тым, хто прыехаў за свае кроўныя, я павінен толькі дзякаваць.

# 1-ja Vilenskaja Biełaruskaja Himnazija

*Anton ŁUCKIEVIČ*

*Praciah. Pačatak u N72*

Z 19 krasavika 1919 h. nastaŭ dla Vilni peryjad polskaj akupacyi. U praciahu hetaj akupacyi, až da 14 lipienia 1920 h., Vilenskaja Biełaruskaja Himnazija čuła siabie vielmi nia dobra. Hieneralny Kamisaryjat Uschodnich Ziamiel amal paŭhoda nie davaŭ himnazii nijakich matarjalnych dapamoh, i kab nia pomač z boku [...], dyk pedahohi prosta pamierłi-b z holadu ci paraźbiahalisia-b, i himnazija zahinuła-b. Tolki praz paŭhoda Hieneralny Kamisaryjat staŭ davač nievialičkija dapamohi, jakija niaznačna palepšyli matarjalny byt himnazii. Adnosiny aficyjnaj polskaj ułady da himnazii, jak i naohuł da biełaruskaj praśviety, byli nia lepšymi, jak pry balšavikoch. Pradstaŭniki biełaruskaj praśviety, jakim prychodziłasia mieć dačynieńnie z polskimi oficyjalnymi kiraŭnikami praśviety, vynosili ŭražańnie, što oficyjalnaja ŭłada nia tolki nie padtrymlivaje biełaruskaj praśviety, ale j starajecca nia dać joj chodu.

Ale nia tolki oficyjalnaja polskaja ŭłada drenna adnosiłasia da nas, jašče bolš – polskaje hramadzianstva. Ź jaho boku išli zaŭsiodnyja pahrozy vyhnać biełaruskuju himnaziju z Bazyljanskich muroŭ. Viadomy polski en-dek p. V. Studnicki pavioŭ ciełuju kampaniju, ahitujučy i na narodnych schodach, i ŭ mahistracie za adabrańnie ad biełarusaŭ Bazyljanskich muroŭ i paśpieŭ naviet pravieści praz schody i mahistrat patrebnyja rezalucyi, katorych nie ŭdałosia biednamu p. Studnickamu ździejśnić z pryčyny adchodu polskaj armii j prychodu balšavikoŭ.

Karotki pabyt balšavikoŭ – ad 14 lipienia da 27 žniŭnia 1920 h. – ničym nie adznačyŭsia ŭ žyćci himnazii. Im nie było, musić, času zajmacca spravami praśviety z-za vajny.

Pabyt ličvinoŭ u Vilni – ad 27 žniŭnia da 11 kastryčnika 1920 h. – prynios, choć i nie adrazu, značnaje palepšańnie matarjalnaha stanoviśča himnazii. Ličviny za karotki čas svajho niezaležnaha istnavańnia paśpieli vypracavać dobry zakon ab škołach, dziakujučy jakomu kožnaja nacyjanalnaja škoła zabiaspiečvajecca ź dziaržaŭnaha skarbu stałaj dapamohaj.

Ale koratka pabyli ličviny...

Na źmienu im pryjšli iznoŭ palaki, pad štandaram "Siaredniaj Litvy". Praŭnaje i matarjalnaje pałažeńnie himnazii pry "Siaredniaj Litvie", choć i nie adrazu, ale dosyć skora zrabiłasia stałym. Oficyjalnaja ŭłada adnosicca da himnazii nie vyrazna, ale dapamahaje joj matarjalna.

Što datyčyć adnosin da nas polskaha hramadzianstva, to jak i pry pieršaj polskaj akupacyi, iznoŭ rajom kruciacca i pašyrajucca čutki, što voś-voś Bazyljanskija mury ad nas adbiaruć, i biełaruskuju himnaziju prahoniać z muroŭ. Pan V. Studnicki pačaŭ iznoŭ zachodzić z roznymi "ekskursantami" u budynak himnazii, da niečaha rychtujučysia.

Zastajecca jašče skazać ab unutranym žyćci 1-aj Vilenskaj biełaruskaj Himnazii.

Z usich biełaruskich himnazijaŭ tolki Vilenskaj paščaściła stać dosyć mocna na nohi. Pryčyny tymu – roznyja. Jak nam zdajecca, hałoŭniejšaja ź ich heta taja, što Vilnia šmat viakoŭ była centram duchoŭnaha dy dziaržaŭnaha žyćcia biełarusaŭ. Biełaruskaje adradžeńnie ŭ kancy 19-ha i ŭ pačatku 20-ha vieku taksama pajšło ź Vilni, hdzie na čale adradženskaj pracy stali braty I. i A. Łuckievičy, navokała katorych hurtavalisia jak palityčnyja, tak i kulturna-praśvietnyja biełaruskija siły. Daŭhi čas, amal za vyniatkam, tolki ź Vilni išli na ŭsiu Biełaruś haračyja pryzyvy k adradžeńniu. Nia dziva, što ŭ Vilniu, jak i ŭ daŭnyja časy, tak i ciapier ciahnucca našyja adradžency z svaimi dumkami i pačynaje ciahnuć i ŭsia Biełaruś.

Dziakujučy, adnak, tamu, što padčas zakładzin himnazii balšavickaja navała vyrvała ź Vilni patrebnych dla kulturnaj pracy ludziej i zmusiła ich jechać za hranicu, biełaruskaja himnazija ŭ Vilni nie adrazu znajšła patrebnych biełaruskich pedahohaŭ i ŭ svaich staršych klasach himnazija nie mahła i da apošniahia času stacca čysta biełaruskaj. Prysutnaść u himnazii pedahohaŭ-niebiełarusaŭ była ŭsio-ž, jak my dumajem, źjaviščam časovym. Ciapier jošć u himnazii dosyć mocnaja i dosyć vialikaja hrupa sapraŭdnych biełaruskich pedahohaŭ, pracujučych ŭ biełaruskaj spravie zdaŭna, jašče zadoŭha da zakładzin himnazii.

Kali praŭda, što škoła – heta vučyciel, to biełaruskaja škoła – heta biełaruski vučyciel, ŭsioj svajoj dušoj addany rodnaj spravie. Nia budź-by u Vilenskaj Biełaruskaj Himnazii ščyrych zahartavanych biełaruskich pracaŭnikoŭ, dyk trudna skazać – ci vyjšła-b što-niebudź z himnazii.

Jak rezultat pracy hetaj hrupy pedahohaŭ u himnazii jošć ciapier mocny hurtok biełaruskaj vučnioŭskaj moładzi, jaki dobra pracuje, vyjaŭlajučy svaje zdolnaści u roznych sferach tvorčaści: poezii, łitaratury, sceny.

Vučniami himnazii vydajecca žurnał "Maładoje Žyćcio". Siarod ich źjaŭlajucca zdolnyja poety i artysty. Asabliva treba adznačyć vydatnuju maładuju paetku N. Arsieńnievu, vuč. 8 kl.

*"Naša Dumka". (№21, 27 traŭnia 1921 h.)*



Алег АБЛАЖЭЙ

# ТАМ

1.

... І наша сьмерць ужо была,
А нараджэньне шчэ не адбылося.
І ападзем мы, як імгла,
Ураньні на нязжатае калосьсе.

Усе нашы вымярэньні прападуць,
Растворыцца прастора ў пустцы часу,
І зможам мы нарэшце ахінуць
Увесь сусьвет каханьнем непагасным.

2.

А нехта нас перажыве
І будзе бачыць наша неба,
Дзе хмарка немая плыве,
І думаць аб надзённым хлебе.

А мы – кім будзем мы тады,
У той нязьведанай прасторы,
Дзе і хвіліны, і гады
Цякуць бяз радасьці і гора?

3.

А там сустрэнуць нас ня так,
Як мы сабе тут уяўлялі,
Душа бы срэбнапёры птах
Растворыцца ў бязьмежнай далі.

Ня будзе болей таямніц,
Мы таямніцай станем самі,
І сполахі зямных зарніц
Дзівоснымі здадуцца снамі.

*"Рунь", №18, 1998 г.*

# Novy dušpastyr vilenskich biełarusaŭ-katalikoŭ

*Praciah. Pačatak na star. 3*

biełaruskaj movy. Dobraha nastaŭnika-biełarusista znajsci nie atrymałasia, tamu daviałosia vyvučać movu samnasam z padručnikam. Užo paśla miesiaca študyjaŭ śviatar zdoleŭ pramović pieršuju kazań pa-biełarusku. Ciapier ajciec Aryjuš zaŭvažaje za saboju, što, navat havoračy na rodnaj polskaj movie, buduje skazy pavodle praviłaŭ biełaruskaha sintaksisu.

— Biełaruskaja mova dla mianie zaraz jak rodnaja, – pryznaŭsia śviatar, – z bratami ja zaŭsiody razmaŭlaju na biełaruskaj movie, i jany časta zabyvajuć, što ja maju inšaje pachodžańnie, nie biełaruskaje, pra što ja sam časta zabyvaju, i nie curajusia hetaha, tamu što ja dobra adčuvaju ŭ sabie ideju jednaści narodaŭ na ŭsioj terytoryi Vialikaha kniastva Litoŭskaha, potym Rečy Paspalitaj i hetak dalej. Heta pryhožaja historyja, jakoj možna hanarycca, tym bolš što biełarusy ŭziali ŭ joj svoj vielmi mocny j pryhožy ŭdzieł.

U Vilniu ajciec Aryjuš pryznačany časova, terminam na adzin hod. Zrešty, i za hety čas śviatar planuje zrabić davoli šmat, u pryvatnaści, nia tolki arhanizavać dušpastyrstva, ale j stvaryć biełaruski kulturny asiarodak.

— Biełarusaŭ u Vilni sapraŭdy niamała, ja skazaŭ-by, navat šmat, – padzialiŭsia spadziavańniami a.Aryjuš Małyska, – kali-b tolki dvaccać adsotkaŭ tych, chto ličyć siabie biełarusami, byli katolikami, to heta ŭžo kala šaści tysiačaŭ, to sabie ŭžo ŭjaŭlajecie, što kaścioł Śviatoha Bartałamieja byŭ-by zamały dla nas, praŭda? Tym bolš, što Vilnia dla mianie sapraŭdy horad, dzie sustrakajucca šmatlikija kultury, i było-b dobra, kab my taksama našaj biełaruskaj movaj heta mahli padkreślić i mahli hetamu adpaviadać.

...U lekcyi "Žanimstva – vialiki sakramant..." ksiondz Adam Stankievič raspaviadaje pra apostała Natanaeła, abo Bartałamieja, jaki zaprasiŭ Isusa Chrysta na viasielle ŭ svoj rodny horad – Kanu Halilejskuju. Mienavita tam Hospad ździejśniŭ svoj pieršy cud, pieratvaryŭšy prostuju vadu ŭ dobraje vino. "Peŭnie-ž, vialiki heta cud, jaki pieršy raz abjaŭlaje nam Božstva Chrystusa. Ale cud hety maje jašče bolšaje, jašče dziŭniejšaje značeńnie. Jon, jak tłumačać ajcy kaścioła, jość znakam, abrazom jašče dziŭniejšaha cudu – pieramieny vina na kroŭ Chrystusavu, jakoj nas ažyŭlaje da žyćcia duchovaha, nadpryrodnaha, niabiesnaha!" – padsumoŭvaje lekcyju śviatar. Jakija-ž pieramieny ŭ žyćci vilenskich biełarusaŭ pryniasie zaračanski Śviaty Bartałamiej? Ci pieratvorycca vada ŭ vino, a toje – u kroŭ? Vidać, zaležyć i ad vady taksama.

## НАМ ПІШУЦЬ

У горадзе Манчэстэры на магільніку пад назовам "Southern Cemetery"("Паўднёвыя Могілкі") на праваслаўным участку пахаваны доктар Сяргей Малафееў родам зь Вільні. Вось што напісана на магільнай табліцы:

Dr.Med.
Sergiusz Malofiejew
* 1901 Wilno
+ 1969 Penley
Zolnierz II Wojny Swiatowej
Czesc jego pamieci

Заўвагі: Dr.Med. – доктар мэдыцыны

Penley – гэта малая вёска ў Валіі (Wales), дзе быў польскі вайсковы шпіталь.

Доктар С.Малафееў быў, здаецца, беларусам. Я яго асабіста ня ведаў. Можа, у Вільні ёсьць ягоныя сваякі, родныя? Можа, яны й не падазраюць, дзе пахаваны іхні блізкі? Дарэчы, на Southern Cemetery пахаваныя мае бацька, маці, сястра й два швагры.

*Міхаіл Швэдзюк*

**РУНЬ** Беларуская газэта ў Вільні

Baltarusių laikraštis Vilniuje

Выдаецца з 1997 году
Выходзіць нерэгулярна
Друкуецца кірыліцаю (клясычным правапісам) і лацінкаю
Выдавец: Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў "Дэмакратыя для Беларусі"
Адрас рэдакцыі:
LT-10323 Vilnius-55, Smelio 23-26
Тэлефоны: + 370 5 261 62 24,
+ 370 604 625 91
e-mail: hazetarun@gmail.com
**Сяржук Гаўрыленка – рэдактар**
**Алег Мінкін – літаратурны рэдактар**
**Павал Саўчанка – сакратар**
**Наклад 500**

Адрас для допісаў:
**"Рунь", LT-10323 Vilnius-55, Smelio 23-26, Lietuva – Lithuania**

НІЗКІ ПАКЛОН
ЗА АХВЯРАВАНЬНІ
Вікторыі Мурашкене, Кацярыне Вініцкай, Валянціну Стэху, Вользе Саковіч, Міраславе Русак і інш.

Нумар надрукаваны пры падтрымцы Дэпартамэнту нацыянальных мяншыняў пры Ўрадзе Літоўскай Рэспублікі.

Šio laikraščio leidimą iš dalies finansuoja Tautinių mažumų departamentas prie Lietuvos Respublikos Vyriausybės.